# ВЯСЁЛЫ ВЕЧАР У АТРАДЗЕ.

У шмат якіх атрадах ёсьць радыё-прыёмнікі. З прыладамі прыёмніка, гучнагаварыцелем, тэлефоннымі трубкамі і ўсіліцелем можна зрабіць некалькі цікавых вопытаў, якія ў вольны час будуць вясёлым і цікавым адпачынкам.

Мы апішам тут некаторыя з іх.

„Уласны перадатчык". Трэба раздабыць мікрафон. Гэта прылада служыць для пературарэньня чалавечага голасу ў электрычныя хвалі. Яна зьяўляецца патрэбнай часткаю ўсякага тэлефону. Каштуе мікрафон нядорага—каля рубля.

У адным пакоі робіцца „студыя перадатчыка". Гэта пакой, у якім перад мікрафонам чытаюць ці іграюць. З гэтага пакою працягваюць два драты да тэлефонных трубак, якія знаходзяцца ў другім пакоі. Трубкі трэба злучыць з канцамі дратоў. Другія два канцы дратоў праз дзьве батарэйкі, злучаныя паступова, злучаюцца з мікрафонам. Такім парадкам, мы ўстанавілі тэлефон паміж суседнімі пакоямі. Цяпер, калі ў „студыі" перад мікрафонам пачаць што-небудзь гаварыць, ці іграць, у трубках будзе добра чутна. Трэба лінію, якая ідзе ад мікрафону да трубак, праклáсьці так, каб яе немагчыма было ўбачыць. Для маскіроўкі можна паставіць прыёмнік, які выключаецца. У студыі чытаюць, співаюць, іграюць на музычных інструмэнтах, адным словам, наладжваюць уласны канцэрт. Зразумела, прозьвішча таго, хто будзе выконваць той ці іншы нумар концэрту, трэба сказаць у мікрафон. Слухачы будуць надзвычайна зьдзіўлены пачуўшы сваіх таварышоў „праз радыё". Такі тэлефон можна правесьці на даволі вялікую адлегласьць, напрыклад, паміж суседнімі дамамі і зрабіць „перадачу" да суседа, які ня мае ўласнага прыёмніка.

Калі няма мікрафону, дык можна карыстацца 2 тэлефоннымі трубкамі. Пры гэтым не патрэбны батарэйкі. Злучэньні

*(Працяг гл. на 3 стар. вокладкі).*



*Гаворыць радыё-станцыя...*

ЗЬМЕСТ.



Рэдколегія: БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., СЬЦЯПАНАЎ Х., ЯКІМОВІЧ А.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.

*Год выданьня 4-ы.*

**Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!**




| **УМОВЫ ПАДПІСКІ:** | ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР. | **АДРАС РЭДАКЦЫІ:** |
|---|---|---|
| На 1 месяц . . . — р. 20 к. „ 3 „ . . . — р. 60 к. „ 6 „ . . . 1 р. 20 к. | | МЕНСК, Комсамольская, 25. |

**№ 13-14** **ЛІПЕНЬ** **1928 г.**

# ЦІ ЎСЕ ВЫ ЗА ВУЧОБАЙ?

Мы жывем у такі пэрыяд, калі капіталістыя хочуць зрабіць на нас напад. На варце нашых межаў стаіць Чырвоная армія, а за ёю працоўныя масы, якія зараз заняты шпаркім гаспадарчым будаўніцтвам, і гэта магутная сіла сваіх пазыцый ня здасьць.

Але нам трэба ня толькі моцная Чырвоная армія, нам трэба навучыць усіх працоўных нашага Саюзу, у тым ліку і будучую чырвоную зьмену—дзяцей, вайсковым ведам.

У „Тыдзень Абароны“ мы ставім перад піонэрамі і ўсімі працоўнымі дзецьмі пытаньне. Ці ўсе вы пачалі актыўна абучацца вайсковай справе? Ці добра ў піонэрскіх атрадах пастаўлена санітарная справа, тапаграфія, сігналізацыя, стралковая справа? Ці знаёмы вы з жыцьцём, бытам і вучобай Чырвонай арміі?

Шматлікія допісы ў нашу рэдакцыю з месц гавораць аб тым, што работа ў многіх піонэрскіх атрадах пастаўлена добра.

Наш дзяткор *Аземша* з м. Капаткевічы піша:

*„Мы організавалі вайсковы гурток, у якім вывучаем будову Чырвонай арміі, праводзім паходы. Для дзяўчат організавалі санітарны гурток. Падрыхтавалі пастаноўку п'есы, а за вычучаныя ад вечару грошы набываем стрэльбу“.*

Піонэры Чырвона-Слабодзкага атраду ЮП вывучаюць, як маскіраваць мясцовасьць, тапаграфію і пасьля правяраюць свае веды на практыцы ў полі, лесе. Піонэры м. Капыля, як піша *П. Мурашка*, перад паходам у поле парабілі самадзельныя кулямёты, вінтоўкі. Піонэры з вёскі *Чапліц* пішуць, што іх атрад з зьвеньнямі ўступіў у сябры Осоавіохіму і прымае актыўны ўдзел у рабоце.

Але такіх добрых прыкладаў яшчэ далёка няма ва ўсіх атрадах ЮП. У гэту работу трэба ўцягнуць усіх дзяцей, ня толькі піонэраў, што яшчэ наглядаецца ў многіх атрадах.

У „Тыдзень Абароны“ трэба праверыць, ці ўсе мы за вайсковай вучобай, як мы аб'ядналі навокал гэтай справы ўсіх дзяцей?

Калі не?—а гэта так, то давайце больш сьвядома, організавана брацца за работу па набыцьцю вайсковых ведаў і гэтым самым удзельнічаць у абароне нашай краіны.



# КІТАЙЧЫК ЛІ-ЦІ.

Апавяданьне *С. Ляліцкай* (*па Брэт-Гарту*). Малюнкі *Сокалава-Асі.*

*Гэта апавяданьне яскрава і жыва малюе жыцьцё бедных і бяспраўных у „краіне свабоды і роўнасьці“ (Амэрыцы) кітайцаў. Надзвычайную здольнасьць чэснага кітайчыка Лі-Ці „культурныя“ амэрыканцы ня здольныя нават ацаніць пачалавечаму і губяць хлопчыка, ня даўшы яму, такім чынам, магчымасьці ня толькі разьвіваць свой талент, але і жыць.*

Гэта былі памятныя дні для Сан-Францыско. Натоўп азьвярэлых амэрыканскіх грамадзян, нібы жадаючы паказаць, як яны сапраўды праводзяць у жыцьцё сваю канстытуцыю, што дае соцыяльную, політычную і рэлігійную свабоду кожнаму без разбору хто ён—амэрыканец, ці чужаземец—кінуліся ў кітайскія рабочыя кварталы. Амэрыканцы накідваліся на неабароненых зброяй кітайцаў і забівалі іх толькі за тое, што тыя другой—ніжэйшай нацыі, другога — жоўтага колеру людзі, за тое, што тыя—жоўтыя, паганскае веры, а не асьвечаныя хрысьціяне, якімі былі амэрыканцы.

За некалькі дзён да пагрому маленькі кітайчык Лі-Ці, што жыў у якасьці разносчыка пры кітайскай прачнай, быў затрыманы разам з другімі, як заклад, за дрэнна вымытую бялізну. Неўзабаве пасьля гэтага прачня была разбурана, і яе жыхары павыганяны.

Хлопчыку няма куды было цяпер ісьці. Ён астаўся у багатых людзей, якія яго ня любілі, але і не адважваліся прагнаць на вуліцу, а разам з гэтым і ня ведалі, што з ім рабіць.

Нарэшце, знайшлі, дзе яго дзець. Містэру Дзіксу, рэдактару газэты ў невялічкім гарадку, патрэбен быў рассыльны. Рухавы, жывы і кемлівы кітайчык якраз падыходзіў для гэтай работы.

Праз некалькі дзён пасьля таго, як містэр Дзікс паслаў у Сан-Францыско ліст, у якім выказаў згоду прыняць кітайчыка на службу, Лі-Ці стаяў ужо ля яго. Жоўты твар яго усьміхаўся шырокай усьмешкай, і яго чорныя, падобныя да чорных ягад, вочы радасна зіялі. Відаць, хлопчык быў рад, што вырваўся ад тых нядобрых людзей з Сан-Францыско.

— Цябе завуць Лі-Ці?—запытаў рэдактар, раптам, сам ня ведаючы чаму, адчуў прыхільнасьць к гэтаму маленькаму шустраму кітайчыку.

— Так, так, я—Лі-Ці,—адказаў той няправільнай ангельскай мовай, і пры гэтым расплыўся яшчэ больш шырокай усьмешкай.

— Колькі табе год?

— Лі-Ці ўжо дзесяць год.

— А дзе твае бацькі?

— Маткі я ня памятую, а бацька памёр, калі мне было восем гадоў. Ён быў вулічным фокусьнікам,—раптам больш сур'ёзна і задумчыва сказаў Лі-Ці.

— А ты ўмееш што-небудзь рабіць?

— Я? О, я шмат што ўмею рабіць. Я працаваў ужо й тады, калі быў зусім

## Як ня трэба ваяваць.

*(Некаторыя праўдзівыя факты з работы піонэр-атрадаў).*

**Мал. Б. Пакроўскага.**



I

Павадыр наш быццам жораў,
Ходзіць нос задраўшы ўгору.
А хлапцы сьмяюцца толькі:
„Начапляў, глянь, ромбаў колькі!“

маленькім. Мы з бацькам хадзілі па горадзе, і я ў час фокусаў памагаў яму,— лазіў па драбінах, пускаў зьмеяў і матылькоў дый шмат чаго іншага вырабляў. А калі бацька памёр, мяне ўзялі ў прачню. Я разносіў па хатах бялізну і за гэта мне давалі вараны рыс.

— А потым дзе ты жыў?

— Потым...—Чорныя вочы хлопчыка засьвіціліся агнём, поўным злосьці,—потым прачню разбурылі вашы амэрыканцы, а мяне забралі к сабе... Некаторыя з іх давалі мне на рыс грошы, а іншыя сьмяяліся з мяне, білі мяне і адбіралі ў мяне грошы.

І хлопчык тут-жа адчуў нейкую прыхільнасьць да Дзікса, расказаў яму пра ўсё свае мінулае жыцьцё, поўнае горкай крыўды і болю. Але ён не абмінуў расказаць і пра тое, як ён ужываў „фокусы“, каб адпомсьціць сваім ворагам.

Містэр Дзікс слухаў яго і спачуваюча ківаў галавой.

— Ага, я і забыўся,—раптам зноў шырока усьміхнуўшыся, заявіў Лі-Ці і палез у кішэнь свайго падранага адзеньня.

Я схаваў ад іх палову даляра, якія мне дала адна жанчына з вашых. Вазьмеце іх.

— Вось што,—пачаў рэдактар,—я вазьму цябе на службу рассыльнога і сёньня-ж да гэтых грошай дадам яшчэ і мы купім табе новае адзеньне.

Лі-Ці быў вельмі задаволены такой прапановай і даклераваў выконваць свае новыя абавязкі „як найлепш“. Рэдактар ніяк не прадбачыў, што значыць гэта „як найлепш“.

Два дні прайшлі добра, але потым адзін з старых разносчыкаў газэт захварэў, і Лі-Ці давялося заняць яго месца. Яму паказалі, каму і куды ён павінен быў разносіць газэты, і досьвіта яшчэ перадалі жмут сьвежых нумароў.

Праз гадзіну ён вярнуўся вясёлым і без газэт, кажучы, што занёс усе, куды было загадана.

Але каля васьмёх гадзін раніцы ў кантору рэдакцыі пачалі прыходзіць злосныя падпішчыкі. Праўда, яны атрымалі газэту, але як?—Адны у выглядзе скамечаных куль, якія укідваліся праз вокны; другія атрымлівалі іх проста ў твар, як мячык; трэція знаходзілі газэту у выглядзе паасобных кавалкаў, запхнутых у розныя куткі і вокны; чацьвертыя ў збанкох з малаком...



*... другія атрымлівалі іх проста ў твар, як мячык...*

Адзін падпішчык расказаў рэдактару са сьлязамі на вачох, што яго ўзбудзіў у пяць гадзін раніцы дзіўны енк пад вакном; ускочыўшы з пасьцелі, ён быў задзіўлены раптоўным зьяўленьнем туга скручанай газэты: газэта ўплыла праз вакно, апісала некалькі кругоў па хаце, патушыла сьвечку, хвасянула аднаму з дзяцей па твары, другому па носе, пасьля чаго яна выплыла ў вакно і шлёпнулася пасярод двара.

На працягу цэлага дня ў кантору прыходзілі скаргі на нязвычайны спосаб падачы газэты. Рэдактар выслухоўваў усіх пакрыўджаных ледзь стрымліваючы усьмешку і дзівіўся з штукарства кітайчонка. Нарэшце, ён выклікаў Лі-Ці і зрабіў яму вымову.

Той жаласна і зьдзіўлена глядзеў на рэдактара і, нарэшце, са сьлязьмі заявіў, што ён, наадварот, хацеў гэтым самым зрабіць яму прыемнасьць.

— Мой бацька заўсёды рабіў такія фокусы і ўсім яны вельмі падабаліся. Нам-жа за гэта нават плацілі грошы,— спалохаўшыся пагрозы, паўтараў Лі-Ці, ня могучы зразумець, чаму гэтак пераменіўся густ амэрыканцаў.

Але ўсё такі ён даклераваў, што гэтага болей ня будзе ніколі. І ён стрымаў сваё слова. Больш ня было ніводнай скаргі на дастаўку газэт.

Але падобны выпадак паўтарыўся вельмі хутка, толькі пры зусім іншых абставінах. У той час пошта працавала вельмі неакуратна. Лі-Ці чуў, як рэдактар, шмат разоў злаваўся на спазьненьне лістоў і газэт.

Аднаго дня, прышоўшы ў кантору, Дзікс, на зьдзіўленьне, знайшоў на сваім стале жмут допісаў і газэт, якія толькі-што атрыманы з пошты; але ніводзін з гэтых лістоў ня быў адрасаваны на яго імя.

Лі-Ці аглядаў іх спакойна і, відаць, быў задаволены сваёй выдумкай.

Рэдактар зьвярнуўся к Лі-Ці:

— Адкуль гэтулькі допісаў і чаму не на маё імя дастаўлены?

К зьдзіўленьню рэдактара Лі-Ці паказаў на пустую паштовую торбу ў кутку са словамі:

— Паштальён кажа: „Няма лістоў, Лі. Няма лістоў, Лі“. Паштальён шмат ілжэ. Паштальён нікуды нявартны. Я злавіў лісты ўчора ўвечары,—усё роўна.

На шчасьце, было яшчэ рана, і пошту яшчэ не пасьпелі разьнесьці. Містэр Дзікс пасьпяшыўся перагаварыцца з начальнікам пошты аб злачынстве Лі-Ці, які ўкраў усе лісты з пошты і прыцягнуў рэдактару.

Дзяцінства, праведзенае з бацькам-фокусьнікам, і ўдзел самога ў гэтых фокусах увесь час адчуваліся у рабоце Лі-Ці. Ён заўсёды ўжываў іх у Сан-Францыско, калі хацеў чым-небудзь адпомсьціць ворагам сваім—амэрыканцам, ён-жа ўжывае іх і цяпер, калі хоча зрабіць што-небудзь прыемнае для рэдактара, якога ён любіў, як свайго заступніка. Але, на вялікі жаль, усё выходзіла наадварот.

Аднойчы ён пачуў, як Дзікс скардзіўся, што ня можа дастаць сьвежых яек, якія раіць есьці яму доктар. На другі-ж дзень Лі-Ці прынёс Дзіксу дзесяткі са два сьвежых яек. І з гэтага часу прыносіў іх акуратна, адказваючыся ўпарта ад платы.

Дзікс думаў, што хлопчык дастае яйкі ў мясцовых кітайцаў, якія з жаласьці к беднаму даюць яму яйкі бяз грошай. Дзікса дзівіла тое, што хлопчык быў вельмі непадкупны і чэсны; яйкі былі

**Як ня трэба ваяваць.**



II

Піонэры Чэмбэрленам
Ломяць галавы паленам,
А глядзіць—ажно хутчэй
З іх патыліц кроў цячэ.

вельмі дарагія ў гэты час, і ўсякі другі не адмовіўся-б ад платы.

Але аднойчы рэдактара наведаў яго сусед, фэрмер Фостэр, і скардзіўся на сваё няшчасьце: куры яго зусім амаль перасталі несьці яйкі.

Лі-Ці быў пры гэтым, але маўчаў, як звычайна. Калі-ж фэрмер пашоў, Лі-Ці хітра падмаргнуў рэдактару і, радасна ўсьміхаючыся, сказаў:

— Што куры Фостэра, што куры Дзікса—усё роўна.

— Значыцца, гэта ты краў яйкі ў Фостэра? — са зьдзіўленьнем закрычаў Дзікс.

— Я ня краў, я браў яйкі з-пад курэй.

— Але-ж гэта ўсё роўна, што ты й краў іх,—цьвёрда сказаў рэдактар.

— Я ня ведаў, што гэта нядобра,— увесь заплаканы паўтараў кітайчык.—У Фостэра шмат яек, а ў вас няма, а вы хворыя, вось я і пачаў браць. Я сам ніводнага ня зьеў...

Рэдактар разжаліўся, і гэта здарэньне прымусіла яго задумацца над лёсам хлопчыка.

Хлопчык меў добрае, чэснае сэрца, але ўсё, што рабілася перад яго вачыма, ён разумеў пасвойму. Ён быў не па гадох разумны, кемлівы. І толькі пры гэткіх якасьцях ён і мог займацца фокусамі.

Неабходна было пачаць нагляд за хлопчыкам, зрабіць на яго добры ўплыў. Сам містэр Дзікс быў чалавек адзінокі, сумны і вечна заняты работай.



*... і падскакваючы памчаўся з вяроўкай у руках...*

Лепшым былобы аддаць хлопчыка ў школу. Але добрыя амэрыканцы не маглі пусьціць жоўтага кітайчыка ў сваю школу, каб ён вучыуся разам з іх дзецьмі.

Апрача таго мясцовыя вучні пачалі прыставаць да Лі-Ці, і часта ён скардзіўся Дзіксу, што яго б'юць амэрыканскія хлапчукі. Містэр Дзікс баяўся, што ў кітайчыка зьявіцца зноў ранейшая дзікасьць і злосьць.

Адзіным выйсьцем было аддаць Лі-Ці на фэрму к Джоксону, жонка якога адносілася дабрадушна к сіраце-кітайчыку.

Рэдактар пасьпеўзжыцца з хлопчыкам і яму шкода было расстацца з

ім, але дзеля яго-ж карысьці ён парашыў зрабіць гэта.

Аднойчы раніцай рэдактар пачуў, як штосьці скрабе за дзьверы.

Ён адчыніў дзьверы і ўбачыў там кітайчыка.

— Новы фокус,—ты скрабеш за дзьверы, як кот! У другі раз уваходзь проста ў рэдакцыю.

— Добра,—адказаў Лі-Ці.—Я раней рабіў тук-тук, і вы казалі, што я, як дзяцел. Вам не падабалася. Цяпер я скрабуся, і вам не падабаецца. Лепш за ўсё, калі я буду проста бяз нічога уваходзіць да вас,—згадзіўся ён.

Рэдактар нічога не адказаў і пачаў падпісваць адрас на канвэрце.

— Занясеш гэта на фэрму Джонсона,—сказаў ён, падаючы ліст хлопчыку,—толькі глядзі абыходзь школу, бо зноў будзе бяды з вучнямі. Не падыходзь да хаты Фланінга, якую ты чуць не падпаліў сваім фокусам, і йдзі бокам ад вялікай дарогі,—там заўсёды шмат людзей.

Але тут-жа Дзікс задумаўся. Сваёй парадай ён загарадзіў для Лі-Ці ўсе дарогі да Джонсона.

— Лепш за ўсё йдзі праз лес,—там ты не спаткаеш у гэты час гэтых гарэзаў-школьнікаў.

**Як ня трэба ваяваць.**




III

Еш павадыра вачамі,
І праводзь яго насамі.
— Слухай, хлопцы! Не, дык—прэч!
Ня спускай з начальства воч.

Хлопчык узяў ліст і вышаў за дзьверы. Рэдактар, падышоўшы к вакну, пачаў наглядаць за адыходзячым Лі-Ці. Раптам ён заўважыў лёгкі шорах у кустох, і з бліжэйшага гарэшніка крадучыся, выскачыла фігура індзейца. Гэта быў Джым, вядомы злачынца.

— Вось гэта дык але,—пачуў рэдактар голас свайго памоцніка,—я так і ведаў і заўсёды гаварыў так, што гэты хлопчык і бяздомак Джым, як два боты пара. Ужо калі ўбачыш аднаго з іх, дык, значыцца, і другі недалёка, і розныя ў іх там сыгналы і штукі, якімі яны адгукаюцца адзін другому. Неяк на днях я знайшоў іх у балоце,—яны разам з Джымам елі сырую рыбу і зяленіва з агароду Мартына. Не спрачаюся, магчыма Джонсон і возьме хлопчыка, але, успомніце маё слова, нядоўга ён прабудзе там, калі Джым будзе зблізку.

Рэдактар не адказаў нічога,—яму было шкода кітайчыка, якога ніхто не хацеў зразумець.

Але хлопчыка ўсё-ж такі на фэрму прынялі і, магчыма, лепшым з усяго яго жыцьця было жыцьцё на фэрме.

Жонка фэрмэра была з добрым сэрцам кабета, яна пашкадавала „няшчаснага сірату“, як яна яго звала, і не прымушала яго шмат працаваць. У жонкі Джонсона Марты жыла дачка яе сястры—белакурая дзяўчынка, якую бацькі аддалі з шумнага і пыльнага гораду на папраўку на фэрму.

Гэта маленькая хваравітая дзяўчынка, добрая і спакойная, змагла, сама таго ня ведаючы, да нікому яшчэ дагэтуль няведамай глыбіні душы кітайчыка, абудзіць у ім мяккасьць і ласкавасьць. Яна ані не адварочвалася ад кітайчыка за тое, што ў яго на твары жоўтая скура, што ён носіць касу,—яна нават дала яму, як падарунак, жоўты касьнік, як найбольш падыходзячы да колеру яго твару. Яна нават брала яго ў горад, калі хадзіла разам са старэйшымі. Яна сьпявала яму свае песьні, і маленькі кітайчык з захапленьнем памагаў ёй, хоць і на нячыстай ангельскай мове.

Яна першая ацаніла яго фокусы і хваліла кітайчыка за такое штукарства. Кітайчык майстраваў для яе розныя цацкі: рабіў з паперы веяры, зьмей, цудоўных матылькоў, лялек і адзеньне для іх.



*Хлопчык—фокусьнік. Так прыходзіцца зарабляць на кавалак хлеба многім пралетарскім дзецям Кітаю.*

Выявілася, што зьмея змайстраваў Лі-Ці. Ён пусьціў у ход тое, што папалася пад руку, а менавіта: вяроўку з бялізнай якая сушылася на ёй.

Калі зьмей плыў у паветры, бялізна часткамі зрывалася з вяроўкі і скідалася ў розных баках гораду.

Рабочы фартух Джонсона ўпаў на тэлеграфны слуп, панчохі упалі на стол, за якім абедалі ў мясцовай гарадзкой сталовай, што выклікала і страх і нараканьні з боку публікі.

Два констэблі*, выкліканыя для наладжаньня парадку, накіраваліся ў той бок, куды вяла вяроўка ад пушчанага зьмея. У хуткім часе яны натрапілі на

Але гэта шчасьлівае жыцьцё цягнулася нядоўга. Жонка фэрмера раптоўна захварэла і памерла. Бацькі дзяўчынкі забралі яе ў горад.

І Лі-Ці зноў астаўся жыць адзін-адзінюткім. Ён успамінаў містэра Дзікса, але той ужо даўно выехаў адтуль, і Лі-Ці ня ведаў, дзе ён цяпер жыве. Адзіным чалавекам, які жыў таксама адзін-адным, быў абарванец Джым.

„Чорцік“ фокусьніцтва зноў прачнуўся ў кітайчыку, але ўжо ня добры, а злосны, сярдзіты. Ён узяўся за сваё ранейшае штукарства і фокусы. Праз гэтыя фокусы яму давялося назусім пайсьці з фэрмы Джонсона.

Здарылася гэта такім чынам.

Аднаго разу раніцай ўзьнялася на небасхіле нейкая цудоўная вялізарная птушка якая, памаленьку сунучыся, навісла, нарэшце, над горадам. Пасьля ўважлівых нагляданьняў пры дапамозе бінокляў і падзорных труб напалоханыя жыхары распазналі ў гэтай птушцы вялізарнага папяровага зьмея у форме лятучага дракона. Спачатку гэта зацікавіла гарадзкіх жыхароў, а потым такое пачуцьцё зьмянілася пачуцьцём нездавальненьня.

**Як ня трэба ваяваць.**



IV

Чуткі ходзяць паміж намі
З вельмі доўгімі вушамі:
— Танк на вуліцы мы стрэлі,
Грыпам Пецьку ён застрэліў.

*) Гэтак у Амэрыцы і Англіі завуць паліцэйскіх

малога кітайчыка і яго сябра Джыма, якія сядзелі ў зусім пустым балоце.

Паліцэйскія з лаянкай накінуліся на штукароў і адабралі вяроўку ад пушчанага зьмея. Але тут-жа адбылося цікавае здарэньне. Канец вяроўкі быў прывязаны за вялікае тоўстае палена, каб зьмей ня мог сьцягнуць вяроўкі.

Паліцэйскія ў гэтым былі зусім нявопытныя. Адзін з іх схапіўся за канец вяроўкі, адвязаў ад дрэва і хацеў ужо цягнуць зьмея назад. Але, на зьдзіўленьне ўсіх прысутных, паліцэйскі ня мог утрымаць зьмея і, падскакваючы, памчаўся з вяроўкай у руках па балоце. Яго таварыш, жадаючы дапамагчы яму, учапіўся за канец вяроўкі і пачаў тузаць яе з усяе сілы. Але зьмей ня спыняўся і іх ня слухаўся, а цягнуў паліцэйскіх усё далей, аж пакуль адзін з іх ля самага гораду не спатыкнуўся на камень і ня ўпаў вобземлю, выпусьціўшы вяроўку з рук.

Другі-ж паліцэйскі, калі толькі паслабілася супраціўленьне для зьмея, раптам узьляцеў на дрэва.

Калі к яму прабеглі на дапамогу і вызвалілі ад зьмея, дык аказалася, што ў яго моцна паранена пляčо.

Кітайчык і індзеец Джым, не чакаючы, пакуль іх зловяць ,зьніклі з гораду. У наступныя дні над адзінюткім вастраўком у затоцы можна было бачыць лёгенькі сіняваты дымок,—гэта быў лягер нашых уцекачоў.

Кожны хлопчык любіць прыгоды. Гэтак-жа любіў іх і сын аднаго констэбля Боб. Наслухаўшыся ад бацькі цудоўных апавяданьняў пра кітайчыка і індзейца, ён парашыў абавязкова знайсьці і пазнаёміцца з імі. Дымок-жа над востравам у затоцы толькі дапамог яму адшукаць уцекачоў.

Аднаго разу Боб не пашоў у школу, як звычайна, а накіраваўся у старым індзійскім чаўне на вастравок. На ўсякі выпадак ён захапіў з сабою няпрыкметна бацькаву стрэльбу. Апрача гэтага, ён узяў яшчэ з сабою і сёе-тое з яды, бо да яго дайшлі чуткі, што Джым корміцца цяпер балотнымі конікамі, а Ці-Лі—жабамі. Сам-жа Боб гэтым карміцца ня мог-бы.

Спачатку ад берагу ён плыў ціхенька, памаленьку, трымаючыся зблізку ад берага, каб не заўважылі яго, потым сьмела пагнаў свой лядашты чаўнок проста к востраву—калматаму, абросламу кавалачку балота, адарванага ад вострава нейкай стыхійнай падзеяй.

Дзень быў харошы, пагодлівы, бухта толькі з большага хвалявалася, але пры пад‘езьдзе бліжэй к востраву пачалося моцнае хваляваньне бухты мора. Хлопчыка пачаў агортваць страх. Човен, як пяро, скакаў у хвалях і зачэрпаў салёнай вады. Боб пачаў крычаць на ўсё горла, калі ўжо вада імчала слабы човен міма вострава. Але тут-жа неўзабаве з кустоў вылезла стройная фігура, скінула з сябе парваную посьцілку і кінулася ў ваду, ціха, як жывёла.

Гэта быў Джым. Ён праз некаторы час і прыгнаў човен к берагу.

Боб апынуўся сярод уцекачоў. Ня гледзячы на тое, што некалі і ён разам з школьнікамі ня раз нападаў на Лі-Ці, цяпер кітайчык аб гэ-



*... грымнуў стрэл і высокая постаць асунулася на зямлю...*

тым забыўся, і Боб быў прыняты у кампанію. Яны ўсе разам лавілі рыбу, зьбіралі ягады, застрэлілі качку і двух кулікоў. Рыбу варылі ў яме з вадой, куды кідалі нагрэтыя дачырвана камяньні. Гэта Боба вельмі зацікавіла. А які прыгожы тут вечар! Ляжаць на жываце ў траве, схаванымі ад усіх людзей, апрача сонца, ляжаць гэтак ціха, што наўкола іх бяз страху спускаюцца чароды птушак і бегаюць блішчастыя рудыя мышы,—гэта было для Боба настаяшчым дзівам.

Сон на гэткім балоце, дзе растуць самыя разнастайныя травы і расьліны, вельмі прыемны і салодкі. Далёкія агні гораду тухлі адзін за другім, але на іх месца выступалі вялікія і бязмоўныя зоры.

Раніцай Боб трохі быў задумаў аб сваім выезьдзе з дому, але ўсё-ж такі парашыў лепш астацца на востраве. Але тут умяшаўся Лі-Ці.

— Трэба табе, мусіць, вярнуцца? Скажаш сваім, што човен перавярнуўся, прышлося далёка плыць да гаю. Ноч пераначаваў у гаю. Дамоў было далёка...

— А стрэльбу я пакіну тут і скажу тату, што яна ўтанула, калі човен перакуліўся,—жыва падхапіў Боб.

Лі-Ці махнуў у знак згоды галавой.

— І вярнуся ў суботу, і прынясу пораху і шроту,—дабавіў яшчэ Боб.

— Добра!—буркнуў Джым.

І Боб паехаў. Хлопчык усё яскрава расказаў дома пра выпадак з ім на востраве. Баючыся кары ад бацькі за стрэльбу, ён салгаў, што індзеец украў у яго стрэльбу і прымусіў вярнуцца па балоце дамоў. Па горадзе пайшлі чуткі, што Лі-Ці і Джым займаюцца грабествам.

Між іншым наступныя дні для брадзягаў прынесьлі ім клопаты і няпрыемнасьці. Дзякуючы выстралам, на востраў перасталі заглядваць птушкі. Давялося галадаваць. Але брадзягі не сумавалі. Яны чакалі таго дня, калі Боб прывязе для іх яду. Чакаючы, яны лічылі дні: Лі-Ці адзначаў прамінуўшыя дні на шнурку з медзянымі монэтамі, з якімі ён ніколі не расставаўся.

Нарэшце прышла і субота, але Боба ня было. Увесь дзень яны маўчалі; калі-ж прышоў вечар, Лі-Ці сказаў:

— Магчыма, амэрыканскі хлопчык памёр?

Гэтаму чэснаму кітайчыку ня верылася, каб што-небудзь, апрача сьмерці, магло перашкодзіць Бобу стрымаць слова.

Аднойчы ўночы, на крыльлях лютага паўднёва-заходняга ветру, наляцеў спозьнены дождж, разбурыў іх лядашты шалаш, затушыў агонь і расхістаў бухту так, што яна затапіла іх невялічкі вастравок. Дождж разбурыў і парваў рыбалоўную сетку Лі-Ці і адагнаў дзіч ад стрэльбы Джыма.

Ледзьве жывымі выратаваліся яны на чаўне з вастраўка на балотны паўвостраў. Адгэтуль тайком яны дайшлі да лесу ля пасёлку.

Уцекачом было дрэнна. Блізкасьць пасёлку перашкаджала ім разлажыць вагонь, і ім так давялося прасядзець у холадзе цэлую ноч у арэхавым кусьце. Напалоханыя праходзячымі рабочымі, яны з куста пераскочылі ў капу травы, якая была на вотшыбе ад лесу ля шырокага берагу. Тут было вельмі холадна, але затое ніхто ня мог убачыць іх.

Лі-Ці, прывыкшы да вялікай порцыі рысу, больш адчуваў цяпер голад, чым яго сябар. Да гэтага далучылася яшчэ

**Як ня трэба ваяваць.**



V

Мы страляем дынамітам,
Газам, коркамі, іпрытам,
З дзікай помстаю ў вачох...
А пакуль дык з пугачоў...

вяласьць і слабасьць усяго організма Лі-Ці. Нават голас перамяніўся. А калі Лі-Ці і хадзіць ленаваўся па слабасьці, індзеец зацягнуў яго ў больш спадзейнае месца, у густы алешнік хоць, між іншым, гэта месца было вельмі небясьпечным. Тут барджэй мог натрапіцца чалавек. Але ў памутнелай галаве Джыма склаўся плян, што кітайчыку хутчэй зробяць дапамогу і кітайцы і белыя. Лі-Ці хворы і другія кітайцы могуць знайсьці і даглядаць яго.

Што датычыцца самаго Лі-Ці, дык ён заўважыў так:

— Я буду паміраць—гэтак, як амэрыканскі хлопчык. І ты будзеш паміраць—гэтак сама.

Пасьля гэтага ён зноў паранейшаму спыніўся з шкляным бязжыцьцёвым поглядам.

Час ішоў, а Лі-Ці усё яшчэ спаў. Джым пачуў звон; ён ведаў, што сёньня нядзеля,—дзень, у які ніхто не працуе, але ён ня ведаў, што гэты дзень выбралі для аблавы на яго і яго сябра Лі-Ці. Джым раптам пачуў другі гук, пакуль яшчэ далёкі і няясны, аднак ажывіўшы яго смутны погляд і нават выклікаўшы лёгкі румяняц на яго выпуклых шчоках. Ён нахіліўся к зямлі і прыслухаўся. Цяпер ён ужо ясна чуў. Клікаў Боб і слова, якое ён вымаўляў, было „Лі-Ці“.

Потым агонь патух ў яго вачох, і ён са звычайнай засмучонасьцю павярнуўся к Лі-Ці.

— Боб вярнуўся,—сказаў ён, але яшчэ не адтрымаў адказу, як голас Боба зноў паклікаў:

— Лі-Ці, дзе ты?

Прыклаўшы руку да рота, Джым слаба гукнуў у адказ.

Адбылося маўчаньне, і раптам ён зноў пачуў голас Боба—на гэты раз зусім блізка.

— Вось ён!

Тады індзеец усё зразумеў. Твар яго аднак не выдаваў спалоху. Ён стаяў проста і нярухома..

З лесу грымнуў стрэл, і ў гэтую-ж хвіліну высокая постаць Джыма асунулася на месцы, перавярнуўшыся ў кучу падранай коўдры.



*Мертвое цела закачалася пад яго рукою.*

За першым пачуў другі стрэл. Констэбель разам з часткай жыхароў гораду вышлі на палянку.

Адзін з іх падступіўся к нярухома ляжаўшаму кітайчыку і з сілай скалануў яго.

Адказу ня было. Мёртвае цела закачалася пад яго рукой, галава адвалілася назад, і сонца асьвяціла ссохшае, худое жоўтае аблічча кітайчыка Лі-Ці.

Так загінуў у краіне „свабоды і цывілізацыі“ гэты жывы і жыцьцярадасны, поўны шчырасьці да людзей кітайчык, загінуў толькі за тое, што меў жоўты твар і быў сынам няшчаснага вулічнага фокусьніка.



# ГОСЬЦІ З СКАНДЫНАВІІ.

**Да нас прыехала замежная дзіцячая дэлегацыя.**

### Сустрэча дэлегацыі.

Пэрон вакзала, ня гледзячы на позьні час, заняты стройнымі шэрагамі піонэрскіх атрадаў, якія прышлі сустракаць сваіх таварышоў здалёку.

Бязупынна ільлюцца піонэрскія песьні і гукі іх чутны на далёкай адлегласьці.

Але вось у далячыні заблішчэлі вагні цягніка і праз пару хвілін поезд падходзіць да вакзалу.

Зайграў оркестр. Чуюцца крыкі:

— Няхай жывуць піонэры ва ўсім сьвеце!

— Прывітаньне замежным піонэрам!

Пад салют, дэлегацыя паказваецца ў дзьвярэй вагона. Прадстаўнік ЦБ ЮП ў сваёй прамове заклікае дзяцей азнаёміцца з нашымі дасягненьнямі і расказаць аб іх працоўным дзецям сваіх дзяржаў.

Ад замежнай дэлегацыі выступала піонэрка *Марта Ліндэль.* Цераз 15 хвілін пад крыкі „ўра“ поезд адыходзіць на Маскву.

### Хто да нас прыехаў.

Да нас прыехала 12 чалавек, з іх: 4 з Норвэгіі, 5 з Швэцыі і 3 з Даніі. З дэлегацыяй едзе член ЦК бюро Комсамолу Норвэгіі (ён-жа старшыня піонэрбюро)—*Скорэ Урпольд.*

Дэлегацыя прыяжджае па запрашэньню ЦК УсеЛКСМ. Яна прабудзе ў СССР 5-6 тыдняў.

### Як яны ехалі.

Дэлегацыя выехала 23-га чэрвеня з Копэнгагэна (Данія).

У Бэрліне дэлегацыю сустрэлі вельмі добра, купілі ім білеты да Масквы і далі ім сродкі на дарогу.

— Вось у Польшчы прышлося нам тугавата,—расказваюць дэлегаты:—ні ў аднэй краіне мы яшчэ ня бачылі такіх грубых і злосных людзей.

У Польшчы дэлегатам хацелі адказаць у праезьдзе таму, што яны „малалетнія“.

У вагоне іх загналі ў адзін куток, паставілі варту, баючыся, што яны разойдуцца па вагонах і займуцца агітацыяй. Яны везьлі з сабою сьцяг. Ні ў аднэй краіне не пасьмеліліся яго адбіраць, але вось у Польшчы—адабралі. Хацелі прымусіць зьняць гальштукі, але гэта ім не ўдалося.

Пад'яжджаючы да Савецкай краіны, дэлегацыя запела інтэрнацыянал. Але зараз-жа ім было прыказана спыніць сьпяваньне.

З нецярплівасьцю чакалі дэлегаты прыезду ў краіну Саветаў. Мэта іх збылася. Цяпер яны знаёмяцца з жыцьцём дзяцей нашага Саюзу і вялікім вопытам работы нашай піонэрскай організацыі.

Паехаўшы ад нас, яны раскажуць усім працоўным дзецям сваіх краін, што яны бачылі ў вольнай краіне Саветаў.

---

**Ці падпісалася тваё зьвяно на часопіс „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“.**

---

**Як ня трэба ваяваць.**




VI

Мы страляем, мы страляем,
Клюб ды школу замыкаем.
І гарланіць на ўвесь рот
Клюбны сторож Чэмбэркот.

# ПАЕЗДКА Ў „КРАСНАЕ“.

*(Агіт. паездка нямецкіх піонэраў у вёску).*

У газэце „Свобода“ вялікімі літарамі была надрукавана наступная абвестка:

„У нядзелю а 7-й гадзіне раніцы на пляцы Маркт зьбіраюцца ўсе піонэры і дзеці рабочых, якія хочуць паехаць у „Краснае“.

Мы езьдзілі ў „Зялёнае“, езьдзілі і ў другія месцы, але ніколі яшчэ ня былі ў „Красным“. Гэта было вельмі цікава і мы парашылі пайсьці. Усталі, калі яшчэ было цёмна, матка захінула нам у паперу некалькі бутэр-бродаў і роўна ў 7 гадзін раніцы мы ўжо былі на пляцы. Там сабралася многа дзяцей. Некаторыя з іх былі ў чырвоных гальштуках, а на сьпінах у іх віселі такія вялікія мяшкі, што я ўвесь час дзівіўся,—няўжо яны такія абжоры, што яны набралі з сабой так многа яды. Я не ўтрымаўся і заглянуў у адзін з мяшкоў. Якое-ж у мяне было зьдзіўленьне, калі я ўгледзеў, што ён запоўнен паперай і што там няма ніякага намёку на яду.

Да паловы 8-ай мы чакалі, таму што ўвесь час падыходзілі новыя ўдзельнікі, а пасьля пастроіліся і са сьпевамі накіраваліся ў дарогу. Песьня, якую мы сьпявалі, пачыналася такімі словамі:

„Сьпіце, моцныя сьвету,  
Мы самі аб будучыне думаем.  
Мы Маладая Гвардыя,—  
Раніца належыць нам“.

Мы ішлі шпарка і неўзабаве пакінулі за сабою горад. У 10 гадзін мы ўсе сталі адчуваць, што нас мучыць воўчы голад і зрабілі прывал.

Адзін з піонэраў дастаў з свайго мяшка каравай хлеба, разрэзаў яго, зрабіў бутэр-броды і раздаў кожнаму. Есьці разам было так прыемна, што нам з братам не хацелася есьці бутэр-бродаў, якія нам дала матка, і мы елі разам з усімі дзецьмі.

Пасьля сьнеданьня мы склалі плян нападу на вёску. Нас было 40 чалавек, мы разьбіліся на 4 групы і парашылі, што ўсе групы павінны ўвайсьці ў вёску Р з 4-х розных бакоў. Пры ўваходзе ў вёску трэба было пець для таго, каб усе заўважылі наш прыход.

Каля 12 гадзін наша група пастроілася ў шарэнгу па 3 чалавекі, наперад вышаў адзін піонэр са сьцягам. З песьняй: „Раз-два-тры, піонэры“... мы ўвайшлі ў вёску. З процівалеглага боку вёскі былі чутны сьпевы:

„Упярод ісьці мы піонэры заўсёды гатовы“.

Гэта ўваходзіла другая група. Усе вясковыя дзеці павыбягалі на вуліцу і ішлі за намі.

У цэнтры вёскі на пляцы сабраліся ўсе 4 групы: і мы ўсе хорам выкрыкнулі, „У тры гадзіны, усе дзеці вялікія і малыя, прыходзьце на пляц“.

Няма чаго і гаварыць, што к 3-м гадзінам пляц быў повен вясковых дзяцей. Мы вышлі на сярэдзіну і сталі „варыць клей“. Гэта такая гульня. Некалькі чалавекутвараюць круг і ходзяць, робячы выгляд, што мяшаюць клей, пры гаварваючы; „гумірабік, гумірабік, гумірабік“. І пасьля нечакана выкрыкваюць: „прыклейваем“. І пры гэтым выхватваюць каго-небудзь з стаячых навокал дзяцей. Той, каго схапілі, лічыцца „прыклеіўшымся“ і ён павінен таксама „варыць клей“.




*На мал. насьценгазэта піонэргрупы Нямеччыны.*

Тыя з піонэраў, якія

не „варылі клею“, пачалі асушваць свае мяшкі. Адтуль зьявіліся розныя лістоўкі, фотографіі і часопісь „Барабан“. Дзеці з цікавасьцю чыталі „Барабан“ і разглядалі фотографіі. Пасьля „варкі клею“ мы выдумалі яшчэ некалькі гульняў і яны працягваліся цэлую гадзіну.

Перад выхадам з вёскі мы запыталі дзяцей, ці хочуць яны стаць піонэрамі? Дзеці адказалі, што хочуць. Тады мы выдалі ім чырвоныя гальштукі і організавалі з іх форпост, які пазьней стане сапраўднай піонэрскай групай.

Мы пераканаліся, што наша паездка была вельмі ўдачнай і хутка накіруемся яшчэ куды-небудзь.

**Дюссельдорфскі піонэр.**



# ПІОНЭРЫ НОВАЙ ЗЭЛЯНДЫІ.

Апошняя пошта прынесла нам з Англіі Нова-Зэляндзкую піонэрскую газэтку „Юны Таварыш“.

Аказваецца, што з гэтага году ангельскія піонэры зьвязаны з нова-зэляндзікімі. Новая-Зэляндыя—гэта выспа, якая знаходзіцца ў 5 часьці сьвету, у Аўстраліі, пад кіраўніцтвам Ангельшчыны. Нядаўна там організаваліся піонэры і зараз у іх ужо выходзіць газэта.

У апошнім нумары за красавік зьмяшчаецца цікавы ліст з Новай Зэляндыі, які мы ніжэй зьмяшчаем:

— Дарагія таварышы! У гэтым лісьце я раскажу вам, як я хаджу ў школу. У мінулым годзе я скончыў пачатковую школу ў горадзе Нельсон-Грыйн, здаў кваліфікацыйны экзамін і паступіў у тэхнічную сярэднюю школу ў Грын-Маўсэ. У гэту школу прымаюць усіх здаўшых кваліфікацыйны экзамін, але дзецям рабочых паступіць у гэту школу амаль немагчыма, затым што гэта каштуе вельмі дорага.

Нельсон-Грыйн вельмі невялікі горад, у ім маецца адна пачатковая школа, у якой вучыцца 40 вучняў, з якімі займаецца адзін настаўнік па ўсім прадметам. Акрамя таго, у нашым горадзе ёсьць пошта, дзьве крамы і каталіцкая царква. Усяго ў горадзе будзе 150 чалавек. Амаль усе мужчыны і хлопчыкі нашага гораду працуюць на лесапільным заводзе. Там-жа працуе мой бацька. Кожную раніцу мне прыходзіцца ўставаць вельмі рана, для таго, каб папасьці на цягнік, які адходзіць у Грыйн-Маўс у 7 гадзін 40 хвілін раніцою. Да станцыі трэба ісьці 5 вёрст; калі ільле дождж, дык я прыходжу на станцыю зусім мокрым. Цягнікам трэба ехаць 15 вёрст. Школа знаходзіцца ў 2-х вярстах ад станцыі і пагэтаму трэба пасьпець сесьці на аўтобус, у праціўным выпадку я спазьнюся на заняткі. Мне трэба ўходзіць з заняткаў на 20 хвілін раней, чымся ўходзяць усе другія вучні, таму што я баюся спазьніцца на цягнік. К канцу дня я адчуваю сябе вельмі зморaным; я атрымаў дармовы праезд па чыгунцы, але за аўтобус прыходзіцца плаціць.

Акрамя таго, мне трэба купляць кніжкі. Няма чаго і казаць аб тым, што маім бацьком вельмі цяжка вучыць мяне ў сярэдняй школе.

Большай частцы дзяцей прыходзіцца спыняць заняткі ў 14 гадоў і паступаць на працу.

У другіх частках Новай Зэляндыі ў вёсках дзецям прыходзіцца многа працаваць да пачатку заняткаў у школах і пасьля заняткаў.

Бывае горш. У Новай Зэляндыі вельмі многа беспрацоўных і вось быць беспрацоўным яшчэ горш, чымся многа працаваць, затым што тады прыходзіцца галадаваць. Прывітаньне ўсім ангельскім таварышом.

**Лій Гэлерэйс.**



# НАША ПРАВЕРКА

Гарадзкое бюро юных піонэраў намеціла правесьці вайсковую гульню-паход піонэраў гор. Бабруйску. Удзельнічаць маглі піонэры, пачынаючы з 13-гадовага ўзросту. Гульня была разьлічана на 2 дні.

Была складзена камісія з прадстаўнікоў ТСА-Авіяхіму, піонэр-працаўнікоў і настаўнікаў, якая і распрацавала плян гульні-паходу. Былі выданы загады аб значэньні гульні і як да яе рыхтавацца. Гэта пытаньне было абгаворана і на конфэрэнцыі бацькоў. Бацькі не супярэчылі.

Запіс удзельнікаў гульні была добраахвотнай. Праз некалькі дзён у сьпісах налічвалася 570 чалавек.

У атрадах работа кіпела. Займаліся вайсковыя гурткі: па тапаграфіі, сыгналізацыі, стралковыя і санітарныя. Рыхтавалі модэлі гармат. Ва ўсіх кутках гораду былі праведзены раённыя вайсковыя гульні, у якіх удзельнічала каля 1000 піонэраў. Гэтыя гульні прайшлі вельмі ўдала і, такім чынам, падрыхтоўка да агульна-гарадзкой гульні была праведзена добра. З вялікай цікавасьцю піонэры чакалі пачатку гульні.

**Перад паходам.**

У ноч (з 14-га на 15-е чэрвеня) было назначана дзяжурства ва ўсіх атрадах; апрача гэтага, з кожнага атраду быў вылучан піонэр у вагульны штаб гульні.

Дзьверы габінэту, дзе знаходзіўся штаб вайсковае гульні, амаль што не зачыняліся. Піонэры прыносяць паведамленьні сваіх атрадаў і сьпісы ўдзельнікаў гульні, атрымоўваюць належныя паказаньні ад атрадаў. Па ўсяму гораду высылаюцца дзяжурныя ад штаба, шукаць піонэраў, якія парушаюць загады.

У штабе дзяжурныя чытаюць кніжкі, газэты, сьпяваюць...

Некаторым хочацца спаць. Адзін піонэр заснуў, забраўшыся на шафу, пасьля ад шуму прачынаецца і, забыўшыся, дзе ён знаходзіцца, паказвае пальцам у вакно, асьветленае электрычнымі ліхтарамі— крычыць: „Паглядзеце, як цікава ўсходзіць сонца!..“ Сьмех, як гром, спыняе яго словы.

Позна. Горад сьпіць. Цішыня. У маленькім габінэце сядзяць павадыры і дзяжурныя —яны вырашаюць, калі пачаць працу.



*Так піонэры будзілі адзін другога.*

Раніцою бягуць піонэры астафэтным бегам па ціхіх вуліцах гораду будзіць піонэраў. У шэсьць гадзін піонэры ўжо былі на месцы. Кіраўнікі растлумачваюць задачы гэтай гульні, зачытваецца памятка ўдзельніка гульні, утвараецца рота. 16-га чэрвеня, раніцою, мы накіруемся ў паход.

**Бой за Цітаўку.**

У суботу, 16-га, а 1-й гадзіне дню піонэры былі ўжо ў поўным зборы. Пад барабанны бой і гукі сьпеваў піонэры накіроўваюцца ў вёску Цітаўку— месца гульні. Пасьля 20 хвілін хацьбы мы робім прывал. Піонэры кідаюцца да

фурманкі, каб здабыць яды. Раптам чуецца голас—„спыніць яду!".

У 2 гадзіны дню піонэры прышлі на месца. Пачынаецца падрыхтоўка да абеда і да зьмяшчэньня піонэраў начаваць па кватэрах. Сяляне сустракалі піонэраў добра і ахвотна адпускалі кватэры.

Роўна ў 3 гадзіны пачалася 1-я гульня—бой за Цітаўку. У ход пайшлі пугачы, трашчоткі. Адна каманда займае фронт да Цітаўкі, астатнія 2 каманды адышлі на вярсту ад 1-й і павялі наступленьне на Цітаўку.

Поле і лес на адлегласьці 4-х вёрст былі заняты групамі піонэраў — байцоў. З усіх канцоў цягнуліся разьведкі. Была чутна страляніна з „кулямётаў".

За кустамі, перабоямі вядуцца гутаркі,—што азначае чырвоны сьцяжок, выкінуты з боку наступаючых, дзеля чаго робіцца перабежка, і як яе рабіць?

Хутка сталі чутны крыкі „ура"—гэта было наступленьне на праціўніка.

Цітаўка была ўзята. К гэтаму часу быў падрыхтаваны абед, у час якога піонэры знаходзіліся ў вельмі ўзбуджаным настроі. Весела абменьваліся ўражаньнямі. У 8 гадзін увечары былі раскладзены вогнішчы, вакол якіх вяліся гутаркі з піонэрамі. У 10 гадзін піонэры разыйшліся па сваіх кватэрах.

**Ноч у Цітаўцы.**

Быў загад, каб піонэры ляглі спаць у 10 гадзін, але піонэры не маглі мірыцца з гэтым загадам і яшчэ доўга вялі перагаворы ў сваіх кватэрах. Дзяжурныя хадзілі па кватэрах і супакойвалі. У 11 гадзін пачаўся абход усіх кватэр для праверкі разьмяшчэньня піонэраў і парадку. Аказалася, што піонэры яшчэ ня спалі. К 12 гадзінам ужо ўсе спалі.

Сыгнал для пад'ёму павінен быў быць у 6 гадзін раніцы, але вясковы пастух, нічога ня ведаўшы аб разьмяшчэньні піонэраў у вёсцы, падняў піонэраў сваім сыгналам у 3 гадзіны. Вышла... невялікая памылка.

**У Бабруйск!**

У 10 гадзін раніцы гульня ў поўным разгары. Пачалася барацьба за Бабруйск. Па абодвых канцох шосэ піонэры цягнуліся ланцужкамі, каб іх не заўважыў вораг... А ў гэты час вораг сачыў за намі. Зноў пачынаюцца гутаркі, куды лепш ісьці і г. д. Праз час была чутна страляніна—гэта наша група ўварвалася ў горад і нападае на ворага. Чутно гучнае „ўра!" Кідаемся ў атаку. Зноў „ура!", страляніна з „кулямётаў, гармат".

Бабруйск быў узяты.

Вясёлымі, пад гукі сьпеваў і барабану піонэры ўвайшлі ў горад.

**Л. Рагінскі.**

Гор. Бабруйск.

## Пішыце нам:

**як вы працуеце на сваіх агародах, як вы рыхтуецеся да „Дню ўраджаю"?**



*Гэта нашы санітары.*

# ДЗЕНЬ У ПІОНЭРСКІХ ЛЯГЕРАХ.

Яшчэ здалёк ад лягеру, за ўзгоркам, чуваць песьні і крыкі піонэраў, якія гуляюць і забаўляюцца пад праменьнямі летняга сонца.

Зблізку ад лягеру горда ўзьнімаецца арка, на якой сплецены з зелені словы: *„Лягер Юных Піонэраў“*.

За аркай адчыняецца шырокі двор, з усіх бакоў абкружаны будынкамі. У гэтым двары і разьмясьціўся лягер юных піонэраў Ляхаўкі.

Пасярод двара—трыбуна, а да яе прымацавана доўгая палка са сьцягам, які горда ўзьвіваецца ў вышыні.

**Жыцьцё бадзёрае кіпіць.**

У мінулым годзе ў нас мясцовасьць была добрая, але ўсё-ж гэты лягер лепш—расказваюць піонэры.—Тут табе і памяшканьне прасторнае, возера і шмат чаго іншага,

Яшчэ рана жыцьцё ў лягеры пачынае кіпець. Па сыгналу піонэры борзда адзяюцца і бягуць да рэчкі скупацца, абмыцца халоднай сьвежай вадой.

Пасьля фізкультурнай зарадкі піонэры строяцца ля трыбуны. З песьняй „Маладая Гвардыя“ ўзьнімаецца лягерны сьцяг. Пачынаецца лягерны дзень, цікава і разумна разьмеркаваны.

Досыць вялікае месца займае фізычная праца і самаабслугоўваньне.

Гэта можна заўважыць і ў сталоўцы, дзе піонэры самі дзяжураць, памагаюць повару і пераносяць яду на сталы.

На долю першай партыі, якая адпачывае ў лягэры, выпала праца—абсталяваць лягер. Самі змайстравалі мост для пераходу праз рэчку, самі змайстравалі і арку і трыбуну з высокай жэрдкай. Дарэчы, з гэтай жэрдкай вялікая „валынка“ вышла—як кажуць самі піонэры. Не па сіле было піонэрам паставіць высокую і досыць тоўстую жэрдку.

І вось, што мы чытаем у дзеньніку за гэты дзень.

„Раз паднялі яе ўверх, але не маглі ўтрымаць. Тады паклікалі на дапамогу комсамольцаў і пажарнікаў. Пасьля ўпартай і вялікай працы мы з гонарам для сябе аглядалі нашу працу“.

Ня гледзячы на тое, што піонэры ў лягеры жывуць усяго тыдзень, ім удалося наладзіць добрую сувязь з партыйнымі, комсамольскімі і грамадзкімі організацыямі.

Піонэры дапамагаюць Райвыканкому, вылучылі некалькі чалавек для дапамогі ў працы дзіцячага саду.

Дзякуючы лягеру, удалося ў Астрашыцкім Гарадку організаваць новы атрад піонэраў, у які ўвайшло 18 чалавек. Піонэры праводзяць гульні разам з неорганізаванымі дзецьмі на пляцоўцы, а праз гэта і знаёмяць іх з работай атраду.

Жыцьцё ў лягеры праходзіць так, як быццам піонэры даўным-даўно тут. У іх: свой быт, свае прывычкі.



*Каля вагню.*

Мал. Філіпоўскага.

Усё гэта знайшло адбітак у насьценнай газэце „Рэха лягеру“.

Піонэры сьпяваюць ужо лягерныя частушкі, напісаныя імі самімі і пра сваё жыцьцё.

Вось яны „прабралі“ гаспадарчую камісію.

„Гаскамісія у нас
Вельмі ўжо стараецца:
Разоў дзесяць на дзень есьць,
Проста аб'ядаецца“.

Нядаўна піонэры правялі першы касьцёр. Ля кастра яны знаёміліся з жыцьцём комсамолу і піонэрскай організацыі раёну.

Недахопы? Яны зусім тушуюцца перад дасягненьнямі, якія выявіліся ў лягеры за кароткі час. З непажаданымі зьявамі піонэры самі рашуча змагаюцца. Быў такі выпадак. Адзін піонэр пачаў хуліганіць, лаяцца. За гэта яго самі піонэры патрэбавалі выслаць з лягеру.

**Тав. Чарвякоў у гасьцях у піонэраў.**

Урачыстае адчыненьне лягеру адбылося 8-га ліпеня.

Вестка аб прыезьдзе А. Г. Чарвякова жыва разьнеслася па лягеры і ўсе з нецярплівасьцю чакалі прыезду дарагога госьця.

Пляц, прыгожа прыбраны зеленьню, сьцягамі, даводзіў аб тым, што тут павінна адбыцца вялікая ўрачыстасьць.

На пляцы сышліся прадстаўнікі грамадзкіх організацый, павадыры і бацькі піонэраў.

Пад крыкі „ўра“ тав. Чарвякоў усходзіць на трыбуну.

Пасьля прывітальнага слова тав. Чарвякова, група піонэраў дае ўрачыстае абяцаньне.

Тав. Чарвякоў чытае тэкст урачыстага абяцаньня. Лягер абірае яго ганаровым піонэрам і падносіць яму чырвоны гальштук.

Пасьля тав. Чарвякоў аглядае лягер, знаёміцца з бытам піонэраў.

Сваe думкі аб лягеры тав. Чарвякоў запісаў у лягерны сшытак.

**„Агульнае ўражаньне лягер робіць добрае. Відаць організаванасьць кіраўнікоў, бадзёры настрой піонэраў і правільнасьць устаноўкі на сувязь гарадзкіх піонэраў з вясковымі. Лічу, што трэба пашырыць і дапамагчы гэтай справе. Піонэрам шчырае прывітаньне“.**

Старшыня ЦВК СССР і
БССР піонэр **А. Чарвякоў.**

Гэтак пад кіраўніцтвам партыі і комсамолу піонэры будуюць новы быт, вучачыся жыць і працаваць колектывам.

**Г-н.**

Астрашыцкі Гарадок.

---

# Ліст піонэраў т. т. Кнорыну і Чарвякову.

Пасьля доўгай і ўцартай працы, наша піонэр-організацыя раскінулася па шырокіх палёх Беларусі для набыцьця сіл для далейшай работы ў атрадах, каб, такім чынам, апраўдаць імя ленінцаў і быць карыснай і здаровай зьменай комсамолу і партыі.

Для гэтай мэты ляхаўскі райком правёў шырокую падрыхтоўчую кампанію па разгортваньню аздаравіцельнай работы сярод дзяцей, у тым ліку і да паездкі піонэраў у лягер.

Наш лягер ужо працуе, знаходзіцца ён у Астрашыцкім-Гарадку. Работа лягеру ідзе дружна і весела. У нас кожнае зьвяно атрымоўвае пэўнае заданьне па трудавой рабоце. Мы азнаёміліся з работай комсамольцаў і піонэраў у вёсцы, праводзяцца гутаркі на розныя тэмы з вясковымі дзецьмі, а таксама і з піонэрамі. Мы думаем зрабіць некалькі экскурсій у бліжэйшыя вёскі і комуны.

Зараз праводзіцца работа па падрыхтоўцы да адчыненьня лягеру, якое адбудзецца 8-га ліпеня.

Нашы лягернікі ў колькасьці 132 чалавек запрашаюць і вас прыехаць к нам на адчыненьне лягеру і для азнаямленьня з нашай працай.

З піонэрскім прывітаньнем:

**Піонэры-лягернікі Ляхаўскага раёну.**





# Тыдзень

Наша краіна знаходзіцца ў капіталістычным акружэньні. Наша краіна для капіталістых—гэта самае страшнае, яны нас бачаць у сьне і прасынаючыся, думаюць, як-бы гэта нас зьнішчыць.

Капіталістыя ўвесь час рыхтуюцца да нападу на нашу бацькаўшчыну. Яны шпаркім тэмпам будуюць танкі, браняносцы, газавыя заводы, самалёты-зьнішчальнікі, павялічваюць грашовыя выдаткі на ўзбраеньне і павялічэньне сваіх армій.

Калі капіталістыя нападуць на нашу краіну, мы ня ведаем. Але-ж аб тым, што яны чакаюць зручнага моманту, каб нас зьнішчыць, мы ніколі не павінны забываць. Мы вайны ня хочам. Мы ведаем, што вайна вялікае няшчасьце. Мы хочам мірна будаваць сваю рабоча-сялянскую дзяржаву, мірна наладжваць гаспадарчую работу.

Але, ня гледзячы на нашае гарачае жаданьне захаваць мір, вайна нам можа быць навязана.

Для таго, каб кіпіталістыя не асьмеліліся на нас напасьці, нам, жывучы на мяжы капіталістычных дзяржаў, трэба заўсёды быць гатовымі да сустрэчы ворагаў. Ітаму, чым лепшая наша баявая гатоўнасьць, чым больш увагі з нашага боку да абароны нашай краіны, тым менш небясьпекі ўзброенага нападу, тым большая магчымасьць вясьці будаўніцтва соцыялізму.

Наша Чырвоная армія, па свайму невялікаму ліку, ня можа абхапіць усё працоўнае насельніцтва першапачатковай падрыхтоўкай да ўступленьня працоўных у шэрагі Чырвонай арміі, калі гэта будзе неабходна. А вайскавая сьвядомасьць, бязумоўна, неабходна кожнаму працоўнаму. Гэтую ганаровую і адказную задачу выконвае савецкая грамадзкасьць—арганізацыі Асоавіяхіму.

З 15 па 22 ліпеня будзе праводзіцца ва ўсім СССР „Тыдзень Абароны“.

У гэты „Тыдзень Абароны“ перад усімі працоўнымі стаіць адказная і галоўная задача праверыць і яшчэ больш пашырыць, паглыбіць і павялічыць якасьць работы па вайсковай падрыхтоўцы, па садзейнічаньню абароне краіны як у гарадох, так, галоўным чынам, і ў вёсцы.

У час „Тыдню Абароны“ будуць высунуты ня толькі чыста вайсковыя задачы. Інтарэсы абароны патрабуюць ад нас і работы па садзейнічаньню культурнай рэволюцыі і індустрыялізацыі краіны.

Ад гэтай вялікай справы не павінна ўхіліцца і наша рабоча-сялянская, працоўная моладзь—піонэры, дзеці.

Шмат дзяцей зьяўляюцца юнымі прыяцелямі Асоавіяхіму, арганізаваны ў практычныя, самадзейныя організацыі Асоавіяхіму, гурткі вайсковых ведаў, мадэльнаплянэрныя, хімічныя, па гадаваньню службовых сабак (добрай пароды), гурткі галубіныя, спорта-мэтэоролёгічныя і інш.

Дзеці таксама ў гэты тыдзень павінны праверыць і шырэй разгарнуць работу па растлумачэньню задач Асоавіяхіму, уцягненьню да работы ў іх як мага больш дзяцей, паказваючы свае дасягненьні ў горадзе, на фабрыцы, заводзе, у клюбе і г. д.

Гарадзкім дзецям трэба памятаваць аб дзецях вёскі. Прыехаўшы ў вёску, трэба навучыць вясковых дзяцей усяму таму, што яны знаюць і што можна зрабіць у дапамогу абароне краіны. Трэба падштурхнуць вясковых дзяцей да збору лекавых траў на лугох, балоце і ў лесе.



# Абароны.

Ад гэтага карысьць і дзецям і дзяржаве.

Работы ў галіне вайсковай падрыхтоўкі многа.

Ёсьць дзеці, якія цікавяцца галубамі, пушчаюць папяровых зьмеяў, любяць забаўляцца з сабакамі і інш. Гэта ў большай часьці праводзіцца неарганізавана, кожны сам сабе.

Ячэйкі юных прыяцеляў Асоавіяхіму, паказваючы свае дасягненьні і ў штодзённай рабоце, павінны арганізоўваць дзяцей у гурткі плянэрна-мадэльныя, дзе па сталай праграме, пры дапамозе кіраўніка, ад папяровага зьмея, можна паступова дайсьці да пабудовы плянэру, на якім можна самому лятаць;

У *галубіныя* гурткі, дзе будуць гадаваць паштовых галубоў, вучыць галубоў, каб яны маглі перадаваць паведамленьні, лісты і г. д.;

Гадаваць добрыя пароды службовых сабак, якія апрача перадачы паведамленьняў, лістоў, могуць падаваць на пазыцыі баявыя прылады, знаходзіць і дапамагаць раненым, а ў мірны час—адшукваць зладзеяў, сьцерагчы народную маёмасьць, хаты і г. д.

У *радыё*-гурткох — вучыцца будаваць радыё-прыёмнікі і г. д.

У *вайсковых* гурткох—вучыцца страляць, вайсковаму строю, як весьці разьведку, нагляданьні за ворагамі, умець арыентавацца па компасу, па зорках, сонцу і г. д., чытаць пляны і карты.

У *хімічным* гуртку—вучацца як абараняцца ад атручваючых газаў, як захаваць сваё памяшканьне, што рабіць з атручанай газамі ядою, вадою, як дапамагаць газаатручаным і г. д.

Пры кожнай школе вучнямі абавязкова павінны быць закладзены паказальные вучасткі з мінэральнымі ўгнаеньнямі. Вельмі пажадана, каб да гэтай работы было прыцягнута як можна больш дзяцей, асабліва ў вёсцы.



Апрача гэтага, для дзяўчат трэба арганізаваць гурткі па шыцьцю Чырвонаармейскай вопраткі, як пячы хлеб, як варыць страву, гурткі сувязі і др. дапаможных служб у Чырвонай арміі.

Гэта ня значыць, што дзяўчаты ня могуць удзельнічаць у рабоце другіх гурткоў.

Абавязкова трэба трымаць сувязь з Чырвонай арміяй—рабіць эскурсіі ў лягэры, кашары, вайсковыя габінэты, Дамы Чырвонай арміі, знаёміцца, як жыве і вучыцца Чырвоная Армія.

Уся гэта работа вельмі цікавая, дае дзецям разьвіцьцё і разумны адпачынак, ўсёй гэтай работай дзеці дапамагаюць абароназдольнасьці нашай краіны і баяздольнасьці Чырвонай арміі.

Работы шмат, работа цікавая і неабходная, трэба толькі падлічыць дасягненьні і на падставе іх пашыраць, паглыбляць і больш арганізавана працягваць гэтую работу далей.

Нашы працоўныя дзеці, наша зьмена не павінна забываць і пра вайсковыя задачы.

**А. Ляскоўскі.**



# Прыгоды поэта і пікора Капейкіна

## Альбо пра тое, як Капейкін заехаў у лягеры.

У мінулым допісе да вас, тав. рэдакцер, я ўпамянуў пра лягеры. Я нават сказаў, што мы зьбіраемся ў лягеры. Дабавіць цяпер да папярэдняга я нічога не магу, апрача таго, што мы выехалі ў лягеры.

Але-ж, браткі, ня ўсё так лёгка зрабіць, як сказаць. Прынамсі мне гэта работа вобмегам вылазіць. І што я, скажэце, за бедны чалавек? А ўсё з-за Абрашы гарую я, родныя мае людцы. Ото-ж гэты Абраша! Вы яшчэ, напэўна, ня ведаеце, што ён за такі Абраша? А ня ведаць Абрашы, гэта тое-ж самае, што быць нярісьменным у лемантары. Вось яно як!

Ну, дык вось як яно ўсё гэта было. Ага, я чуць не забыўся. Мне вельмі захацелася разблытаць перад вамі адну надзвычайна вялізную тайну. Цяпер, калі я бліжэй пазнаёміўся з вамі, тав. рэдакцер, мне за гэта, думаю, не нагарыць па шыі. Тайна мая—гэта тайна прозьвішча „Капейкін“.

Яшчэ пры старым павадыру я напісаў ў сваю насьценную газэту верш. У вершы я горача, з рэвалюцыйнай загартаванасьцю, заклікаў грамадзян піонэраў унесьці інтэрнацыянальную капейку. І вось, што-б вы думалі? Наш павадыр Цяпкін так узяў мяне на цыгундар за такія дробна-буржуазныя штучкі, што я й дзесятаму заказаў пісаць. Ён перад усім сходам патрабаваў: папершае—хто напісаў такі верш у капіталістычным дусе (там, бачыце, у вершы я даводзіў, што грошы нашы патрэбны замежным таварышом і ўсё такое), а, па-другое—прычым тут наша капейка, калі яна мае ход толькі ў савецкіх краінах і яе нідзе больш ня возьмуць.

Асьмяялі мяне тады з вершам ды яшчэ й Капейкіным прадражнілі. Вось з таго часу і лічуся я Капейкіным.

Цяпер аб Абрашу і лягерах. Мне ў атрадзе было загадана ў такі-та дзень (ну, скажам, чацьвер—цяпер ужо нават добра ня помню) зьявіцца на станцыю і прыцягнуць Абрашу.

Атрад зьбіраўся ад'ехаць у лягеры.

Добра.

Прычакаўся гэта я чацьвярга. Пру так з раніцы к Абрашу. Захапіў з сабою, вядома, усялякія снасьці: міску, конаўку, сяньнік, падушку, шчоткі, усіх колераў і гатункаў фарбы, алоўкі і ўсю, усю дробную і буйную гаспадарку.

Прыпёр к Абрашу яшчэ досьвіткам. Аж ён ужо устаў. Сядзіць гэта цяпер ў садзе і піша вершы Гэтак, кажа, лягчэй пішацца. Тут табе сонца выскаляецца і поэтычна вароны крычаць, і дрэўцы песьні складаюць...

— Абраша, кажу: едзем!..

— Куды?

— У лягеры. Сёньня збор на станцыі.

— Зараз на табе аловак, пішы вершы, а потым пойдзем. Яшчэ пасьпеем,—адказаў ён і зноў упыліўся за пісаньне.

Піша ўсё і нешта сабе пад нос мармыча.

Пісаў гэта ён, пісаў, а потым устае і заяўляе так:

— Ну, вось і напісаў. Ты такога за век не напішаш. І пачаў чытаць.

ВЯСНА ЗАВЕ.

Зімка уцякае
Сваім холадам.
Сонца пазірае
Мілым паглядам.
А я на скамейку
Сагнуўшыся пішу,
Хочацца барджэй мне
Сустрэць вясну.
Жаўраначак песьняй
Радасьць сэрцу лье,
Пах зямлі прадвесьняй
К сонцу ўсіх заве.

Прачытаў і рассыпаўся сьмехам, торкаючы пальцамі у мяне:

— Ну, ну, напішаш такі? Цяпер я ў атрадзе самы лепшы поэт...

Злосьць нейкая агарнула мяне. Лыткі затрэсьліся, як у ліхаманцы. Як гэта, каб Абраша ды лепш за мяне напісаў вершы? Не, думаю, гэтаму ня быць!

— Тры хвіліны даёш мне?..—Закрычаў я на Абрашу.

— Ты й за гадзіну такога не напішаш,—падтруньвае з мяне ён.

Схапіў гэта я аловак, паперу і сеў.

Але, мусіць, нешчасьлівая хвіліна была тады, калі я ўзяўся.

Хоць ты плач—нічога ня выходзіць. Перабраў я ўсе поры году, прабаваў пісаць і пра назойлівых „поэтычных варон“ і ўсё дарэмна. Як пачытаю—здаецца мне, што ў Абрашы спрытней...

І вось пісаў, пісаў, цэлы сшытак паперы зглуміў і толькі тады вышаў верш. Пачытаў я яго Абрашу. Не згаджаецца, што мой лепшы.

Ну, хіба-ж ён ня лепшы, тав. радакцер? Памяркуйце самі. Вось пачатак майго вершу:

Вароны каркаюць у небе
А сонца з іх сьмяецца.
Мне злосьць на Абрашу,
Вось так-бы і загрэў яму здаецца...

— Тут галоўнае, кажу я яму, пачуцьцё ўласнае зьліваецца з жыцьём прыроды.

Нічога не бярэ. Я крытыкую яго верш, а хвалю свой, а ён наадварот.

Адным словам, хутка мы пераканаліся, што ўжо на дварэ поўдзень і што ніякага атрада мы цяпер не застанем. Але



*а ён піша і нешта мармыча...*

ўсё-ж такі бяжым на станцыю. Прыбеглі. Распыталі.

— Няма, кажуць,—даўно пакацілі ў бок Барысава.

Але куды? Ні я ні Абраша ня ведаў.

Што-ж рабіць? Параіліся мы, ды й пусьціліся ў дарогу даганяць сваіх. Можа дзе небудзь нарвемся? Па нашых меркаваньнях атрад далёка заехаць ня мог. Варочацца назад мы не адважваліся. Хто яго там разьбіраць будзе, праз якую віну мы спазьніліся. Не паверадь-жа, што мы, можна сказаць, важнай справай ва ўсепоэтычным абхваце займаліся.

* * *

Даўся-ж мне ў знакі гэты Абраша. Я яшчэ раз паскарджуся на яго, тав. радакцер. Падумайце толькі! Мы ўжо другі дзень вандруем па вёсках. І хоць-бы хто вухам чуў пра наш атрад.

„Ня ведаем і ня ведаем!“—так усюды адкажуць.

Ужо к вечару на другі дзень падышлі мы к нейкаму хутару. Спыніліся. Пасталі. Нідзе нікога ня відаць.

Мы парашылі тут і падначаваць—на дварэ.

Паляглі і ляжым—жуем сабе хлеб. Аж чуем, крычыць нехта ды так лаецца, што й наш Цяпкін даўней ня ўмеў гэтак.

— Гэта-ж думаць,—крычыць ён,—гад нейкі пчолкі наважыўся зьвесьці з сьвету. Начараваў гад нейкі.

Зацікавіліся мы. Усталі і падыходзім да пажылога ўжо дзядзькі, які керпаўся ля вульля.

— Што там, дзядзька, здарылася?—пытаю я.

— Што здарылася. Вось бачыце, што здарылася.

І барадаты дзядзька гнеўна шпурнуў з палкі нейкі чорны камяк у наш бок. Мы ўважна прыгледзіліся.

— Ура, ура!—крычыць Абраша.

— Ура! Жывём!—падхапіў і я.

— Што вы, ці не звар‘яцелі?—абурыўся на нас селянін.

Тут-та мы і разблыталі два клубкі. Папершае, мы выратавалі ад бяды селяніна, а па другое, мы ўхапіліся за досыць пруткую саломінку, якая можа выратаваць і нас ад дарэмнага бадзяньня.

Справа была такая: за чары селянін прыняў лапавухі парваны капялюш

Сонькі. Мы адразу-ж скемілі, у чым тут справа, трэба было толькі пазнаць нам гэты капялюш. Тут недалёка чыгунка. У чацьвер быў моцны вецер. Капялюш, відаць, вырваўся праз вакно цягніка. Яго ветрам загнала аж у вулей, які быў адчынены.

Так мы ўсё растлумачылі і селяніну. Ён вельмі нас за гэта падзякаваў і нават запрасіў начаваць у хату.

Мы, такім чынам, патрапілі на троп. Цяпер бяды было мала: заўтра, не пазьней, мы ў атрадзе.

Так яно й было.

Але перад гэтым яшчэ адна цікавая гісторыя ў нас здарылася. Не дахадзя саўхоза „Сіні дым“, дзе знайшлі мы лягер свайго атраду, мы патрапілі ў вёску. Гэта ўжо было на трэці дзень. Увайшлі ў вёску і зайшлі ў крайнюю хату выпіць вады. У хаце знайшлі селяніна. Сядзіць ён і вохкае, бядуе.

— У чым справа, дзядзечка?—пытаемся ў яго.

— Ай, не паможаце вы майму гору,—безнадзейна махае рукой дзядзька.

— Як гэта? Мы ад усякай хваробы лечым, —жартаўліва заўважыў Абраша і ўсьміхнуўся.

Паглядзеў гэта на нас дзядзька падазрона і пытае:

— Скуль вы будзеце, хаця, хлопчыкі?

— З гораду!—бойка адпаліў я.

— Эгэ,—пачухаў дзядзька ў барадзе.

Мы з Абрашам пераміргнуліся: „Нябось, быць ня можа, каб мы не з'агітавалі дзядзьку“. А тымчасам дзядзька палез ў кішэнь, дастаў адтуль нейкую паперку і паказвае.

— Вось у гэтай паперцы справа. І сам ня ведаю і ніхто з усяе вёскі не разьбярэ, што тут напісана. Разабралі толькі адно: што, калі не зьявішся ў нейкі, ліха яго ведае, суд—аштрапуюць. Але пры чым тут я. Мяне ўсяго толькі дражняць кастрыцай. А тут-жа нейкаму Кастрычніку павестка гэтая.

Мы ўзялі павестку, разглядзелі. У ёй пісалася так:

*Лебядоўскі раённы суд паведамляе гр.* **Кастрычніка,** *што ён павінен зьявіцца Казла 10 дня на суд...*

Прачыталі. Пераглянуліся ўсе. Абраша наш тут ужо й міну сур'ёзную зрабіў, лоб наморшчыў. Глядзелі мы, глядзелі, не разьбярэш нічога.

Потым пачынаем распытвацца: ці ёсьць у іх вёсцы казёл.

— А як-жа,—кажа дзядзька,—ды такі рагаты яшчэ...

— Не,—перабіваем,—селянін такі па прозьвішчу казёл?

— А як-жа і такі ёсьць, — адказаў дзядзька.

Ну, тут то мы й зьмікіцілі, адкуль адмыкаць замок.

І мы не памыліліся. Павестка была адрасавана селяніну Казлу. Але сэкратар рыку замест прозьвішча паставіў назву месяца (кастрычнік), а замест назвы месяца—прозьвішча (Казлу).

Вось якія прыгоды траплялся з намі, пакуль мы не знайшлі сваіх.

Цяпер мы жывём у лягерах.

Жывём і радуемся, з жартамі ўспамінаем толькі аб мінучым пройдзеным рэвалыцыйным шляху.

На гэтым, тав. радакцер, я спыняю свой допіс. Бачыце, я павінен цяпер праводзіць мёртвы час. А як-жа я буду вам пісаць, калі я стану мёртвым.

Скончу пісаць ужо лепш пасьля гэтага мёртвага часу. Пакуль дазвольце кланяцца ўсім вашым пікорам, дзяткорам і рэдактарам.

Ваш поэт і пікор

**Капейкін.**



*Мы адразу скемілі ў чым справа...*

# Янкава Курачка

*Апавяданьне* **Кастуся Калягіна.**

*Малюнкі* **Філіпоўскага.**

— Яначка, Яначка, ты зноў, шэльма, забаўляешся? Зноў, смаркач, нешта прыдумаў? Ах, малыш, я табе пакажу, як заглядаць куды ня трэба...

Яначка адвярнуўся да мацеры і прабарматаў:

— Ды ня кідаць-жа мне іх, вось гэтых калматаножак. Шкода, бачыце.

— Што гэта ты яшчэ прынёс?

— Ды вось савянятак знайшоў у лесе...

— Што ты будзеш рабіць з імі!!! Га? Яшчэ ня было якой немачы ў хаце! Савянят! Аднясі, каб і духу іх ня было.

Маці кінулася к прыгорбленаму Яначку, але ён хутчэй маланкі падскочыў так, што лоб Даркі выцяўся аб лоб Яначкі і ў абоіх у вачох іскаркі заскакалі.

— Зьнімай штонікі,—закрычала Дарка,—зьнімай, шэльма! Зараз я табе пакажу.

— Мама, дык за што-ж зьнімаць іх? Ты-ж сама накінулася.

— Зьнімай, шэльма! Высяку, як сідараву казу.

— Ну, дык што-ж? зьніму! Калі ёсьць за што, а то дык сама вінна, а мне штонікі зьнімай, каб яна секла. Зьніму, сячы, калі ласка!

Дарка паглядзела злосна на Яначку, а Яначка ўтапырыўся вачмі ў зямлю і, не сьпяшаючыся, адшпіліў гузікі ў штоніках.

— А біць чым будзеш? Рукою? Табе-ж балець будзе, а пасьля я буду вінен,— прабурчэў ён пад нос.

Дарка ня ўтрымалася і залілася сьмехам.

— Добра, ня зьнімай. А савянят сваіх прымі, каб імі тут нават ня пахла! Дабра знайшоў! Ад іх толькі адна шкода. Аднясі.

Але Яначка не аднёс, а схаваў савянят на гары.

Такім ужо дзіваком радзіўся Яначка: з гадоў малых усё ладзіць нешта, то птушак даглядае, то сабак і кацянят гадуе.

Даводзілася за гэта Яначку, ды толькі нічога не памагала. Паплача, паплача, сьлёзы вытра рукавом рубашкі і зноў такі самы.

— Аднёс сваіх пісканят?— спытала вечарам маці ў Яначкі.

— Аднёс. Аднёс, калі ты не даваляеш, — прабурчаў Яначка. А сам падумаў:

— Куды ты панясеш, у лес, каб цябе зьвяры разарвалі, ды і шкода іх. А на гару маці ня лазіць, а калі палезе, дык ня так хутка знойдзе.

Час ішоў. Ужо май канчаецца. Ужо аксамітам зялёным заслалася поле, закудравіліся лясы і на дварэ цёпла, цёпла.

Цішком носіць ежу савянятам Яначка. Прыйшоў сягоньня раніцою, а замест чатырох галоў сустрэла яго толькі адна.

Стаў шукаць: туды-сюды, няма і няма. Корміць савянё Яначка, а сам горкімі сьлязьмі заліваецца.

— Мама, мусіць, выкінула. А што яны ёй зрабілі? Еш, любае, еш.—Наелася савянё і паляцела. Пакруцілася ля кладзі, ды—пырх! праз ваконца. Стаіць сярод гары Яначка і зрушыцца з мейсца ня можа.

— Вось табе й раз,—уздыхнуў ён і пайшоў ціханька. На другую раніцу, па прывычцы ўзьлез на гару, глядзіць, а савянё зноў сядзіць на сваім мейсцы.

Зарадаваўся Яначка.

З тых часоў ён кожную раніцу карміў савянё, а яно, пад'еўшы, адлятала.

Але Яначка трымаў сваю тайну у вялікімі сакрэце.

А між тым час ішоў, расло савянё.

Расла трава, адцьвіталі сады і вывеліся кураняты.

Дзе ходзіць кураводка, як корміцца,— няма нікому ніякае справы. Ходзіць і ходзіць.

Ня дарма прыслоўе кажа: „Куранятак восеньню лічаць“.

Добра аб гэтым ведае Дарка, а таму і на куранятак не зьвяртае ўвагі.

* * *

У гарачы чэрвеньскі дзень усе паехалі на касьбу, а Яначку пакінулі хату даглядаць. Сумна аднаму. Хадзіў, хадзіў Яначка па дварэ—зайшоў на гумно. Сеў на бервяно і заглядзеўся на бясхмарнае неба.

Сьцелецца ад гарачыні па шырокаму блакітнаму мору празрысты вэлюм, як дым, і пераліваецца ў паўднёвай цішыні.

А ў гэтай празрыстасьці, быццам павук у павуціне, чорнаю кропкай круціцца каршун.

Вельмі цікавым паказалася гэта Яначку.

Глядзіць, дзівуецца.

— Вось цікава, крыльлямі не ўзмахне, а круціцца.

Ціха. Толькі шмялі гудуць каля дзьвярэй току.

Кураводка купаецца недалёка ў пяску.

Раптам цішыню расьсек шуршачы камяк і выцяўся каля куранят.

Калі мячык падскочыў і ўзьняўся ў неба, Яначка тады зразумеў, што каршун схваціў куранё. Недалёка ён убачыў уцякаючую з крыкам кураводку і разбегшыхся па бакох куранят.

Кінуўся Яначка да кураводкі, падлічыў куранят, а там замест дзесятку— дзевяць.

Зморшчыў лоб Яначка, прыціснуў пальцам курносы нос і нарасьпеў:

— Пачастуе сёньня мяне мама. А ці-ж я вінен? Заганю я іх у ток. Ну іх у балота!—Загнаў. Загарадзіў дошкамі вароты, каб кураняты ня выскаквалі, узброіўся палкаю ды ходзіць каля току.

— Вось цяпер няхай падляціць,—на сьмерць заб'ю. А сам з неба вачэй ня зводзіць. Але ў прасторным небе ня было нікога.

— Будзе ад мамы лазьня. Яна ўжо такая. А за што? Ці-ж я не глядзеў, ды вось што атрымалася, — прамармытаў Яначка ды плюнуў.

У гэты час нехта цяжкімі ўзмахамі шэрых крыльляў расьсек цемру току.

— Як толькі Яначка прыбег у ток, бачыць — шэры камяк прыціснуўся да зямлі і нешта дзяўбе.

Ня доўга думаючы, Яначка пусьціў палку, і шэры камяк зваліўся. Падбег. Глядзіць і вачом ня верыць. Ляжыць яго ўласная сава, а каля яе жаласна стогне куранётка.

— Ах, каб цябе немач узяла! Эх, ты галоўка горкая. Вось навязалася.—Махнуў рукою Яначка, і штонікі падцягнуў, але ў гэты-ж час усьміхнуўся і хітра падмігнуў некаму:

— Ня ўсё яшчэ прапала. Пачакай.

Яначка падняў куранё і маланкаю пабег у хату.

Абмыў кроў на галаве, заліў рану алеем і палажыў куранё ў пер'ях.

І зноў у ток. Стаў над савою, а тая ляжыць бокам і цокае дзюбаю:

— Вось табе, паскудніца! Зарабіла. Мала я цябе карміў? А ты яшчэ куранят будзеш цягаць! Так табе, так табе і трэба.

Яначка выцяў два разы саву.

Але раптам успомніў чацьвёрку маленькіх савянятак, якія хціва ўпляталі крошкі хлеба з рукі.

Яначка замёр. Шкода стала савы. Падняў, напаіў вадою. Аджыла.

— Ну, а цяпер вон адгэтуль, каб табою і ня пахла тут. Карміць цябе цяпер ня буду.

Узьнялася сава і паляцела воддаль.

А Яначка зайшоў на гумно, сеў на бервяно і зажурыўся.

— Што-ж рабіць? І трэба-ж усё ў адзін раз. Няхай-бы назаўтра гэта сталася. Дык вось табе. Добра. Не скажу, што сава, скажу—каршун.

Усё роўна.

І абед у Яначкі ня лез у рот. Есьць, а сам думае:

— Бач і сонца сьпяшаецца. Ой, хутка прыедуць.

Паглядзеў на куранё. А яно зажмурыла вочкі і ціўкае памаленьку.

— Баліць, міленькае? Ах, чорт які, за галаву кранула. Дай яшчэ памажам алеем.

Памазаў яшчэ алеем Яначка і ўкрыў чым найцяплей куранётка.

* * *

Мігам прайшоў дзень. Сонейка танула ў зялёным моры поля. Над полем сьцелецца сіні туман. Вунь дзядзька Ціхан ужо прыехаў з касьбы дахаты.

Вунь стадак пагнаў пастух і падняў пыл быццам расьцягнуў шэрую коўдру.

А ў Яначкі сэрца ёкае. Сядзіць ён на прызьбе і вачэй ня зводзіць з дарогі.

За шумам і пылам, што ўзьняло праходзячае стада, Яначка ня ўбачыў, як пад‘ехаў бацька з мамаю.

— Ну, як справы, гаспадар?—спытаў жартуючы Сьцяпан—бацька Яначкі.

Яначка затросься і прабурчэў:

— Нічога.

— Усё цэлае?—спытала маці і пытліва паглядзела на Яначку.

— Пасьля... раскажу.

— Я так і ведала. Нешта прыдумаў?

— Ды ня прыдумаў. Я зусім не вінаваты.

Пакуль распрагаў бацька каня, маці пасьпела дапытацца ў Яначкі.



*Яначка зразумеў, што каршун схваціў куранё.*

— Варон, дурань, ты лавіў.

— Дык ці-ж за каршуном наглядзішся.

— А ты рот разьзявіў!

— Ды не разьзявіў, а глядзеў. А ён—цап адно, а другое падраў. Я адбіў другое, значыць, глядзеў—калі адбіў.

— А малы, разумны ты надта.

Янaчка трымаецца за штонікі і думае:

— Навошта яна цягне за душу, усё роўна біць будзе. А маці сядзіць за сталом і мармыча пад нос:

— Нічога з цябе ня будзе. За курамі не даглядаеш, дык дзе-ж там за большаю справаю. Ня вельмі шкода, але ўсё-ж.

Надаела Янaчку слухаць упіканьні мацеры.

— Зьнімаць штонікі, ці што? Будзеш біць, ці не?

— Ня трэба... — ляніва прагаварыла Дарка.

Селі вячэраць, есьць Янaчка і хітра ўсьмахаецца ў лыжку.

А аб саве дык нічога не сказаў...

* * *

Пабеглі дзень за днём, як дажджовыя кроплі са страхі. Янaчка хоць не сказаў мацеры аб саве, а сам адчувае сваю віну. Часта накручваецца думка.

— Здохне куранё, шкода, я сам вінаваты.

Маму абмануў, а сам сябе дык не абманеш.

З раніцы да вечара водзіцца з куранём, ні на крок не адыходзіць. Кожную раніцу анучкай мокрай абмые рану, змажа алеем і зноў кладзе ў пер'е. А праз тыдзень куранё пачало папраўляцца. Высуне галоўку і паглядае кругом, як зьвярок які.

— Бач, якое ты! Нябось, напалохалася, калі сава цапнула.

— Во-во!—і Янaчка пагрозіць кураняці пальцам і кашы дасьць.

Ужо куранё ня хоча сядзець у пер'і, выскачыць і бегае. Янaчка сочыць за ім. Корміць сам, поіць сам.

То кашкі, то хлеба, а то дык казявак наловіць, часам чыстай вадою з чарапка частуе, а пасьля так прывыкла куранё да Янaчкі, што адно бяз Янaчкі нікуды ня ходзіць.

Янaчка на двор, і куранётка на двор. Янaчка сеў, і куранётка ля ног прысела. Сьмяецца з яго Янaчка:

Што, і аб мацеры забылася? Расьцеш!

А куранётка і сапраўды расло і было шмат большае за сваіх братоў. Тыя толькі пачалі ў пер'е ўбірацца, а яно ўжо ўсё ў пер'ях: цёмна-чырвоныя пярынкі іскрыліся на сонцы.

— Чырвоненькае ты маё, а ўсё-ж выгадаваў я цябе.

Да прачыстай чырвоненькае вырасла ў вялікую курыцу. Але ад Янaчкі ні на крок: куды ён, туды й курачка, ён гуляе з дзецьмі, і яна за ім цягнецца.

Ён гуляе, а курачка сядзе воддаль. Янaчка—дахаты, і курачка дахаты.

Вядома, пасьля прачыстай лічы, што лета няма. Паглядзіш, журавы курлыкаюць і на поўдзень ключыкам цягнуцца. А там і ластавак-шчабятушак ня чутна, таксама адляцелі. А вунь і гусі цягнуцца. Холадна ўжо раніцою. Вецер - гуляка круціцца па гумне і паднімае слупы пылу і мякіны.

Застукалі цапы. Восень.

Пара ісьці дзецям у школу. Пайшоў Янaчка ў школу і курачка за ім цягнецца.

— Не, ты дома пабудзь, у школе табе, Чырвоненькая, рабіць няма чаго. Ты лепш будзь дома.

Зачыніў Янaчка курачку ў складзік, а як прыйшоў—выпусьціў. На другі дзень пусьціў Янaчка сваю Чырвоненькую разам з іншымі курамі.

Цэлы дзень курачка шукала і там і тут свайго таварыша.

Бегала па двары. Замірала на мейсцы і доўга, быццам дагадваючыся стаяла, а пасьля зноў шукала—і не знаходзіла.

А калі ўбачыла, што ідзе Янaчка, кінулася яму на спатканьне.

— А-а-а-а!—Засумавала! Ну, пойдзем дахаты, накармлю цябе.

Але нанач аднёс у куратнік, дзе начавалі і іншыя куры.

* * *

Калі выпаў глыбокі сьнег, калі халодныя вятры апеквалі рукі і шчокі, Яначка, выпускаючы курэй з дзіравага куратніку, убачыў, што пявун адмарозіў сабе грэбень. Цішком ад мацеры зьмясьціў ён Чырвоненькую пад лаўкаю на ліштваццы.

— Сядзі тут, Чырвоненькая, і маўчы, а то маці адразу выкіне, ведаеш, яна адразу.

— Яначка, што ты там робіш?—закрычала маці.

— Ды вось курачку прымайстроўваю тут начаваць.

— Гэта што за глупства?

— Ды як-жа, холадна, бачыце, у нашым куратніку, вунь пявун грэбень адмарозіў, і куры насы паапушчалі.

— Ах, ты, куры твае невядома што! Вельмі яны каму патрэбны! Вунь за год кожная па тры дзесяткі нанесла! Вялікая карысьць!

— Дык-жа шкода! Замерзьне...

— Ах, шкода яму! Усіх табе шкода. Ды ад яе вошай і бруду не абярэшся.

— Ды, мама, ня лайся, ачышчу сам. Пабурчэла, пабурчэла маці і махнула рукой.

— Нічога ня зробіш з дурнем гэтакім!

А Яначка раненька ўстае, ачышчае з пад курачкі гной, накорміць, напоіць яе і выпусьціць на двор, а сам у школу ідзе.

Чым больш маці сварыцца, тым больш Яначка курачку шкадуе. А тут яшчэ кніжку выпадкова прачытаў, і так яна яму спадабалася, што адступіцца ад яе ня можа.

— Ага, пачакай, Чырвоненькая, цяпер мы цябе прымайструем па кніжцы, а потым паглядзім, што з гэтага атрымаецца.

Стаіць курачка ціха ля Яначкі, быццам слухае гутарку яго. З таго часу Яначка корміць Чырвоненькую то просам, то ячменем чысьценькім.

Костку перапаліў, стоўк і кожны раз у корм сыпле, есьць курачка і сакоча, дзякуе Яначку. А Яначка падміргне ёй і вады чысьценькай у чарапку дасьць.

Не пазнаць курачку,—гэрой перад другімі. Рослая, чырвонашчокая, грудзі колам, ну, проста красунечка.

— Ах, ты,—сьмяецца Яначка,—і пявун любіць маю Чырвоненькую, толькі з ёю разгульвае.

* * *

Кончылася зіма з веямі і марозамі. Яначка даўно абмеркаваў адну справу— чакаў толькі цёплых дзён, а яны вот і зьявіліся.

У сьвята ён выбраўся ў лес, насек дубцоў і колікаў прырыхтаваў і, нікому слова ня кажучы, узяўся за справу. Побач з куратнікам зрабіў тры сьцяны з дубцоў. Стаіць і ўсьміхаецца.

— Вось гэта будзе хата на зіму маёй Чырвоненькай. Замажу глінай, і падлогу зраблю гліняную і жэрдачкі ў рад устрою.

Гняздо яшчэ зраблю. Ведаю, якое зрабіць. Няхай паглядзяць!

І так задумаўся, што не заўважыў, як падышла маці.



*Ён і корміць сам і поіць.*

— Зноў, родненькі, нешта гародзіш?

— Ды трэба, мама, Чырвоненькай месца змайстраваць. Сама-ж ты лаешся, што ў хаце трымаю яе.

— Дык што ты будзеш рабіць? Лепш-бы справу рабіў якую!

— Дык гэта-ж, мама, справа.

— Куры справа? Біць цябе няма каму, мурзаты!—Плюнула маці і пайшла.

А пад вечар Яначка падлогу ўтрамбаваў, зрабіў жэрдачкі, зрабіў страху саламяную.

— Вось яшчэ глінай аблажу, і будзе ў мяне ўсё, як трэба. Вось паглядзім тады.

Усю ноч Яначка ня спаў сягоньня. Вельмі мудра яму здавалася зрабіць гняздо. І ён і так прымерваў і гэтак прымайстроўваў, але ўсё нічога не атрымоўвалася.

— Ну, добра, заўтра абмяркую. З гэтым і заснуў.

У школе доўга глядзеў малюнак, дзе было намалёвана гняздо.

А пад вечар зьбіў скрыначку, у сярэдзіне падзяліў на дзьве часткі, а ад перагародкі палажыў дошчачку, якую разрэзаў папалам, змацаваўшы скуранымі петлямі—атрымалася ў выглядзе пасткі. Пот з Яначкі коціцца градам, языком варушыць то ўправа то ўлева, шморгае носам—гняздо канчае.

— Эй, ты, бяссонны, чаму не кладзешся спаць,—бурчыць маці.

— Зараз, вось кончу.

— Ах, любыя, глядзеце, як насьмяціў! Вось навязаўся на мяне гэты малы, хоць гвалт крычы!

— А вось пабачым, што ты пасьля будзеш казаць.

— Ты зараз у мяне пагаворыш!

Бачыць Яначка, што маці сапраўды разгневалася! Узяў венік і чыста падмёў падлогу, а гняздо схаваў пад лаўку.

Раніцою паставіў гняздо ў пабудаваным куратніку, выпусьціў курачку, а сам—у школу.

* * *

Сёньня Яначкава Чырвоненькая зьнесла першае яйка ў зробленым ім гнязьдзе.

Сёньня-ж ён доўга сядзеў ля вакна і нешта абмяркоўваў.

— Не, лепш адразу, няхай тады палюбуецца,—прабурчэў ён пад нос.

А сам дастаў скрынку, паслаў сьвежай саломы, абцёр мокрай анучкай яечка і палажыў на салому. Палюбаваўся, усьміхнуўся і аднёс у складзік.

Там ён скрынку схаваў пад страху.

— Вось паглядзіць мама, які я работнік. Я чытаў аб гэтай справе.

Прайшлі няўзнак два тыдні, чуць ня кожны дзень хавае Яначка і ўсьміхаецца. Пачала маці квактуху садзіць. Дастала два дзесяткі яек, якія пад руку папаліся, і суне іх пад квактуху.

— Мама, гэту курыцу ня варта садзіць, і яйкі дрэнныя.

— Чаму?

— Ды вось чаму. Я ў кніжцы чытаў, што пад квактуху трэба выбіраць ціхую курыцу, а гэта, як шалёная якая, падушыць яна ўсе яйкі. І яйкі таксама дрэнныя: трэба сьвежыя. У кніжцы напісана, каб яйкі адбіраць, якія маюць ня больш як дваццаць дзён.

— А, які кніжнік зьявіўся! Ты яшчэ мяне будзеш вучыць?! Мы і бяз вашых кніжак куранят выводзім!

— Такія й кураняты ў вас вядуцца.

— Адлезь і не перашкаджай, а то зараз дубцом адсяку.

— Я пайду. Але я праўду кажу. Нічога ня выйдзе.

Але маці Яначкі ня слухала. І праз два дні квактуха падушыла палову яек. Ухмыляецца Яначка і ціха за абедам мацеры:

— А што, чыя праўда?

— А ты й рад! Дурань, каб памагчы мацеры, дык ён сьмяецца.

— Ты-ж ня слухаеш.

— Як-жа жыць, каб сваіх шчанят яшчэ слухаць.

— Ах, мама, якая ты! Гэта-ж ня я так кажу, кажуць кніжкі.

— Плюю я на тваё кніжкі. Ад вашых кніжак хутка жыцьця ня будзе, няхай яны праваляцца.

Усё хочуць на новае перавярнуць. Нават да курэй дабраліся.

Памаўчаў Яначка, а потым ціханька:

— А вось давай, мама, стракаценькую пасадзім, я нават яек дам.

— Адкуль ты іх возьмеш?

— Вось калі хочаце, давайце зробім.

— Я і без тваёй рады абыйдуся...

Тры квактухі Дарчыны вывелі толькі ўсяго дваццаць куранят.

* * *

Пад канец лета бяда звалілася, конь здох Сьцяпанаў. Вось было гора. Плакала, прычытвала Дарка, хмурным цэлы тыдзень хадзіў Сьцяпан, і Яначку таксама было ня вельмі добра.

Сяк-так здабылі грошай, купілі каня, але за гэта шмат дабра прышлося прадаць. А як прыйшоў час плаціць падатак, гроша медзянога ня было ў кішэні. Хоць і сабралі грошай, але ўсё-ж, каб заплаціць падатак, было мала.

Яначка спытаўся ў мацеры:—„А колькі яшчэ?“

— Ох, ох, горачка-гора! Ды чатыры рублі, сынок. А дзе-ж іх узяць?

— Я знаю дзе.

— Дзе-ж?

— Ды вось слухай! Ёсьць у мяне сотня яек. Чырвоненькая мая нанесла, аднясеце іх у горад, вазьмеце за іх, што трэба.

— Э-э, балабан, ці-ж ты ня ведаеш, што мы па трыдцаць капеек прадавалі дзесятак.

— А вот гэта і ёсьць. Ці-ж такія як вашы яйкі: брудныя і дробныя, а мая Чырвоненькая во якія нясе! Вот панясі, даведаешся.

Кажуць: — „Калі топішся, за саломінку хопішся“. Панесла Дарка ў горад яйкі.



*Стаяць сяляне, маўчаць, а Яначка ўсьміхаецца.*

Вечарам прышла дадому радасная, вясёлая—з грашыма. Яначка з пытаньнем:

— Ну, як?

— Твая праўда, Яначка, якраз чатыры.

— А-а-а што? Ці-ж ня праўду я казаў. Я-ж аб гэтым у кніжках чытаў, як курэй даглядаць, і даглядаў Чырвоненькую, як апісана ў кніжцы,—і як пявун па хаце прайшоўся. Назаўтра аддалі падатак.

* * *

Весткі аб Яначкавай курачцы разьнесьліся па вёсцы, як лісьце па полі.

Кожнаму захацелася паглядзець на Яначкаву курачку, кожны пытаўся, як, што і дзе ён даведаўся аб гэтым. І кожны адказ атрымаў:

— У кніжцы вычытаў.

А восеньню заехаў у вёску аграном з раёну гутарыць з сялянамі.

Гутарылі аб жыце, канюшыне, дагаварыліся і да курэй. І тут пачалі ўсе расказваць аб Яначку. Проста дзіва натварыў,—аднэю курыцаю падатак заплацілі!—сказаў сьмяючыся дзед Лявон. Дык дзе-ж ваш гэты цудадзей?—спытаўся аграном.

— Пойдзем, пакажам.

Пайшлі гуртам.

Пaглядзеў аграном на Яначкаву гаспадарку, пагладзіў яго па галоўцы, сказаў:

— Маладзец, шкода, што ты адзін такі на цэлай вёсцы. Каб усе пачалі так гадаваць курэй, багачамі-б былі. Бачыце, аднэю курыцаю падатак заплаціў. А каб была іх сотня, каня можна было-б купіць. Маладзец, Яначка! —і яшчэ раз пагладзіў па галаве.—Вось вам прыклад, грамадзяне.

Стаяць сяляне, маўчаць, а Яначка ўсьміхаецца і на мацеру паглядае, і вельмі хоча сказаць ёй:

— Ага, цяпер прымусіш штонікі зьнімаць? *(З расійскае).*

# АБ УСІМ ПАТРОХУ.

## Падземны суднаходны канал.



Кожны, напэўна, чуў аб чыгуначных тунэлях, але ня кожны ведае аб тым, што і штучныя водныя шляхі пракладаюцца іншы раз таксама ў тунэлях.

Нядаўна ў Францыі пабудаваны самы доўгі ў сьвеце канал у 7,2 кілёмэтры (амаль 7 вёрст), які праходзіць у тунэлі, высечаным у скалістай глебе. Гэты канал злучае порт Марсэль на Міжземным моры з ракой Ронай. Да адчыненьня каналу суднаходзтва па Роне ня мела выхаду ў Міжземнае мора, бо яе вусьце (сутока) зусім абмялела. Ронскі канал мае глыбіню ў 4 мэтры, а вышыня яго тунэлю — 15 мэтраў.

На нашай фотографіі паказаны ўнутраны выгляд Ронскага тунэлю.

## Фотографаваньне пад вадой.

Два амэрыканскіх вучоных зрабілі нядаўна ў глыбінях Мэксыканскае затокі цікавую і ўдалую



спробу фотографаваньня падводнага жыцьця.

Фотографаваньне гэта адбываецца наступным чынам: фотограф-вадалаз, у вадалазным гарнітуры, апускаецца на дно мора і ставіць там фотоапарат на трыножнік, таксама, як і на сухазем'і. Фотографічная камэра зьмяшчаецца ў асобнай мэталёвай скрыні з шкляным вакном, якое зьмяшчаецца якраз супроць об'ектыва апарата.

На паверхні вады плавае плот з замацаваным на ім рэфлектарам. На плоце гэтым зьмяшчаецца порах для аднаго запалу і сухая электрычная батарэя. Калі фотограф з дапамогаю асаблівага люстэрка выбярэ зручны момант для здымку, ён замыкае электрычную батарэю. Батарэя дае іскру, якая падпальвае порах. Запал пораху асьвятляе рэфлектар, ад якога прамені сьвятла трапляюць у глыбіню мора, у тое месца, дзе адбываецца здымка.

## Каляровы малюнак па радыё.

Аднэй з апошніх навін у галіне радыётэхнікі была перадача каляровага малюнку з Нью-Ёрку ў Сан-Францыска. Перадача адбывалася пры дапамозе 3-каляровых нэгатываў: чырвонага, блакітнага і жоўтага. Кожны з іх быў пасланы паасобна, пры прыёме-ж яны былі злучаны разам. Уся перадача цягнулася 30 хвілін.

Другой цікавай спробай была перадача штрыхавых накідкаў і географічных карт. Першыя спробы былі ўдалыя.

## Аэроаўтамабіль-амфібія.

Паказаны на малюнках аўтамабіль можа перасоўвацца як па сухазем'і, так і па вадзе, як земнаводная жывёла („амфібія"), і прыводзіцца ў рух пропэлерам, як аэроплян. На сухазем'і аўтамабіль-амфібія перасоўваецца на калёсах, а на вадзе ён трымаецца як плот ці роўнадоннае судно, якое шпарка рухаецца пад уплывам пропэлера, як „глісэр".



## Павозкі-паромы.



На апошніх манэўрах ангельскае арміі ўпяршыню ўжываліся вельмі цікавыя павозкі-паромы. На гэтых павозках можна перасоўвацца ня толькі па зямлі, але і па вадзе, праз рэкі і невялікія вазёры. З павозкі можна зрабіць човен ці паром у некалькі хвілін, для гэтага трэба толькі выпрагчы коняй і напоўніць паветрам брэзэнтавыя торбы, якія не прапускаюць ваду і зьмяшчаюцца па баках павозкі.

## Жывыя кулямёты.

У акіянах і морах жывуць цікавыя істоты—мэдузы і актыніі. І тыя, і другія маюць організм зусім просты. Ні вачэй, ні жабраў, ні лёгкіх, ні касьцей у іх няма,—толькі адзін кішэчнік. Але затое па форме яны вельмі рознастійны.

Актыніі напамінаюць кветку, а медузы празрыстыя, як вада. Тымчасам, яны маюць такую абарону, якая небясьпечна нават для чалавека. Мэдузы і актыніі—гэта жывыя кулямёты.

Целы іх пакрыты мноствам пузыркоў. Калі мэдуза ці актынія кім-небудзь раздражнены гэтыя пузыркі трэскаюцца, і зьвінутыя ніці, што ляжаць у іх, вылятаюць і ўядаюцца ў цела таго, хто іх патрывожыў.

Але апрача таго гэтыя стрэлы—ні што іншае, як паляўнічая зброя мэдуз. Дробныя малюскі і другія бяскрыўдныя жыхары акіянаў забіваюцца насьмерць такімі стрэламі, а затым трапляюць у кішэчнік жывых „кулямётаў“.

У некаторых мэдуз стрэлы начынены атрутай, і ўколы ад іх могуць выклікаць боль і ў чалавека.

Але што застанецца ад жывога кулямёта, калі яго выцягнуць на бераг? Ён выпарыцца. Цела яго, як губка, якая ўсачыла ваду, проста на вачох высахне, і ад жывога кулямёта застанецца толькі кавалак плеўкі.



## РЫБА „Д‘ЯБАЛ“.



**Гэта рыба нядаўна злоўлена ў берагоў Адрыатычнага мора. Важыць яна каля 120 пудоў, сваімі зубамі можа лёгка жаваць броню. Рыба ляжыць на спэцыяльнай павозцы.**

## Гадзіньнік-аўтамат.

Швэйцарскаму інжынэру Мэйору ўдалося зрабіць вельмі цікавы гадзіньнік, якога зусім ня трэба заводзіць. Мэханізм гадзіньніка рухаецца ад штодзенных зьмен тэмпэратуры. Свайго роду моторам тут служыць гліцэрын. Гліцэрын, як вядома, застывае пры тэмпэратуры 30 градусаў ніжэй нуля, а кіпіць пры 360 гр. вышэй нуля.

У ніжняй частцы апарата, пабудаванага Мэйорам, зьмяшчаецца трубка, напоўненая гліцэрынам. Трубка злучана з цыліндрам, у сярэдзіне якога рухаецца поршань; к знадворнаму канцу поршня прымацавана вага. Ад зьмены тэмпэратуры гліцэрын у трубцы падымаецца або апускаецца, штурхаючы поршань, які у сваю чаргу рухае мэханізм гадзіньніка.

Для нармальнай працы гадзіньніка патрэбна зьмена тэмпэратуры ўсяго на 2 градусы. Адзін такі гадзіньнік, пабудаваны Мэйерам, ідзе ўжо больш году без рамонту і без заводкі.

# Ці ёсьць у вас радыё-прыёмнік?



*Яны слухаюць даклад.*

Усю зямную кулю зараз пакрылі дратовыя сеткі антэн перадаючых і прыёмных радыё-станцый і некалькі мільёнаў радыё-прыёмнікаў, якія штодня прыймаюць цікавыя лекцыі, канцэрты, опэры. Радыё ў наш час зрабілася неабходнай часткаю культуры. Але ня ўсе піонэры ведаюць аб гэтым вялікім дасягненьні чалавечага розуму. А ня ведаць—ня добра, бо можа здарыцца, што хто-небудзь запытае, што такое радыё, як яно працуе, якая з яго карысьць, і будзе сорамна не адказаць на гэтыя пытаньні. Пагэтаму ўважліва слухайце, што я вам буду зараз гаварыць:

Для перадачы гутаркі, музыкі і г. д. на вялікія адлегласьці будуюць перадаючыя радыё-станцыі. Гэтыя радыё-станцыі пératвараюць наш голас, музыку ў электрычныя хвалі, якія з дратоў, павешаных на высокіх слупох, антэнах, ляцяць з хуткасьцю 300.000 кілёмэтраў у сэкунду ва ўсе бакі ў прастору па эфіры. Калі гэтыя хвалі перасякаюць антэну, дык у ёй узнікае электрычнасьць, якая, пападаючы ў прыёмнік, прымушае працаваць тэлефонную трубку, праз якую мы чуем словы, музыку і г. д.

Зараз вы запытаецеся, чаму гэта, калі ў адзін час працуе шмат радыё-станцый, гукі ўсіх перадач ня змешваюцца і мы чуем толькі тыя перадачы, якія нас цікавяць? Справа ў тым, што кожная радыё-станцыя можа лавіць радыё толькі з пэўнай вызначанай хвалі, якая і ляціць у эфіры, ня змешваючыся з іншымі хвалямі другіх радыё-станцый. Прыёмнік-жа робіцца так, каб ён мог прыймаць толькі адну хвалю, а да другіх заставаўся-б глухім. Гэта магчымасьць вылучыць толькі тую станцыю, якую хочаш слухаць, носіць назву *настройкі*. Вось у кароткіх словах тое, што носіць назву перадачы і прыёму па радыё.

Цяпер мы можам пагутарыць аб тэй карысьці, якую дае нам гэта аграмадная заваёва чалавечага розуму. Тая аграмадная хуткасьць, з якой адбываецца перадача і прыём, выратавалі не адну тысячу чалавек ад пагібелі. Напрыклад, у моры, дзе карабель быў раней адрэзаны ад усяго сьвету, радыё адыгрывае асабліва вялікую ролю ў выпадку, калі карабель тоне. Пры дапамозе радыё судно можа трымаць сувязь з зямлёй, другімі суднамі, дасылаць на зямлю розныя паведамленьні. Адноечы быў такі вельмі цікавы выпадак, калі радыё выратавала ад сьмерці цэлую каманду судна. Уся каманда атруцілася нейкімі прадуктамі. І вось радыё-тэлеграфісты пасылае жудасны сыгнал „Сос“, які азначае, што тыя, хто перадае, апынуліся ў зусім кепскім становішчы. Сыгнал пачуў адзін параход, на якім быў урач. Параход запытаўся, у чым справа. Тэлеграфісты паведамілі, што каманда атруцілася. Урач запытаўся пра адзнакі атруты і загадаў хворым даць

пэўнае лякарства з параходнай аптэчкі. Такім парадкам урач за тысячы кілёмэтраў выратаваў жыцьцё цэлай каманды.

Быў і такі выпадак, што повар рабіў апэрацыю пад кіраўніцтвам урача, які знаходзіўся ад яго на другім караблі за шмат сот вёрст. Радыё адыгрывае зараз вельмі вялікую ролю ў справе выратаваньня экспэдыцыі Нобіле, якая выехала на паўночнае канцавосьце. Можна напэўна сказаць, што калі-б ня радыё, дык экспэдыцыя загінула-б у паўночным холадзе, і ніхто ня ведаў-бы аб яе лёсе.

Вялікую ролю радыё будзе адыгрываць у будучую вайну. І мы павінны ведаць тыя магчымасьці, якія яно нам дае ў гэтай галіне. Пры дапамозе радыё мы можам трымаць сувязь з самалётам у час яго палёту. І вось, калі ідзе страляніна з гармат, самалёт наглядае за вынікамі і дае розныя папраўкі артылерыстым. Такім парадкам страляніна бывае вельмі пасьпяховай.

Апошнія дасягненьні даюць магчымасьць ня толькі рабіць з самалёта ўказаньні, папраўкі, але і кіраваць па радыё самалётам бяз лётніка. Такі самалёт можа заляцець глыбока ў тыл да ворага і нанесьці яму вялікія страты. Ня трэба таксама забывацца і пра радыё-сувязь паміж часткамі войск у тых мясцох, дзе няма магчымасьці правесьці тэлефон. Галоўную ролю ў час вайны будуць адыгрываць маленькія перадатчыкі, вельмі падобныя на аматарскія, і пагэтаму мы павінны вывучаць гэтыя перадатчыкі і наогул усе магчымасьці як выкарыстаць радыё ў справе ўзмацненьня абароназдольнасьці нашай краіны.

Піонэры! Шмат хто з вас мае ўласны радыё-прыёмнік. Задачай кожнага з вас зьяўляецца як мага шырэй у летні час выкарыстаць радыё-прыёмнік, бо акрамя таго, што вы толькі што прачыталі, радыё зьяўляецца адным з першых праваднікоў культуры ў вёсцы, у сялянскіх гушчах. Ні кніжкі, ні газэты так ня будуць уважліва слухацца селянінам, як жывыя гукі ад мёртвай мэталёвай плястынкі тэлефону. Праз радыё мы прасьвятляем, навучаем, як жыць пановаму. І вось пагэтаму у летні час, калі мы робім выхады за горад, едзем у лягеры ў вёску, мы павінны праводзіць агітацыю за ўстаноўку радыё-прыёмнікаў.

Трэба зацікавіць сялянскіх хлопцаў і дзяўчат, паказаць і навучыць іх, як зрабіць прыёмнік, якая ад гэтага карысьць і дапамагаць ня толькі словам, але і справай. У горадзе піонэру ёсьць таксама над чым папрацаваць. Шмат сем'яў ня маюць радыё-прыёмнікаў і калі добра пашукаць, дык знойдзеш не аднаго чалавека, які наогул ня ведае, што гэта за зьвер такі радыё. Тое-ж самае можна сказаць і адносна піонэратрадаў. Трэба імкнуцца зрабіць так, каб не засталося ніводнай сям'і, ніводнага атраду без радыё-прыёмнікаў.

У атрадзе, дзе ёсьць прыёмнік, трэба наладзіць масавае абгаварваньне перадач і іх прапрацоўку. Радыё перадае гутаркі, лекцыі, якія закранаюць усе бакі жыцьця і пагэтаму такая праца з прыёмнікам уздымае агульнае разьвіцьцё. Для гэтага



*Яны таксама хутка будуць слухаць радыё...*

трэба пасьля праслуханьня перадач правесьці гутарку аб праслуханым, незразумелае запісаць і паслаць на радыё-станцыю пытаньні. Адтуль па радыё вам усё растлумачаць і будуць даваць розныя карысныя парады.

Дык памятайце: карысьць ад радыё вялікая, трэба шырока агітаваць за ўстаноўку радыё-прыёмнікаў і вывучаць радыё-справу, бо гэта нам заўсёды спатрэбіцца.

**Л. Дзяміхоўскі.**

### Дзе дастаць патрэбныя матар'ялы?

Для пабудоўкі простага дэтэктарнага прыёмніку патрэбны наступныя матар'ялы: 400 грам званкавога дроту (г. з. такі дрот, які ўжываецца для праводкі электрычных званкоў). Кавалак картону, ляпей брыстольскага, размерам 20 на 20 смт., дошку з сухога дрэва, ляпей правараную ў парафіне для мантажу прыёмніку, 4 гнязды для тэлефона і дэтэктара і дзьве клемы для злучэньня з антэнай і зямлёй і адзін блёкіровачны кандэнсатар для тэлефону, абхватам у 2000-3000 см. Матар'ялы гэтыя могуць каштаваць каля 2-3 рублёў.

У продажы маюцца гатовыя радыё-прыёмнікі як лямпавыя, так і дэтэктарныя. Лямпавыя каштуюць ад 30 руб. і і вышэй, а дэтэктарныя ад 5 р. 02 к. да 20 р. 97 к. Акрамя прыёмніку для ўстаноўкі патрэбны яшчэ трубкі, цана якіх: аднавухія па 4 р. 68 к., дзьвёхвухія—7 р. 25 к. і мэтраў 60-70 дроту для антэны, што каштуе каля 2 р. 50. Гэты набор зьяўляецца найбольш распаўсюджаным і танным і дае магчымасьць слухаць перадачы на адлегласьці 60-80 кілёмэтраў ад радыё-станцыі:

| | | |
|---|---|---|
| Прыёмнік тыпу П—7 . . | 5 р. | 2 кап. |
| Тэлефон . . . . . . . | 4 „ | 68 „ |
| Дэтэктар тыпу ДС . . . | — | 41 „ |
| Антэна . . . . . . . . | 2 „ | 50 „ |
| Разам . . . | 12 р. | 61 кап. |

Усе матар'ялы, патрэбныя для ўстаноўкі радыё-прыёмнікаў, прыёмнікі, прылады можна набыць у Менску ў Дзяржэлектратрэсьце (ГЭТ), па Савецкай вул., 68 і ў аддзяленьні Дзяржшвэймашыны, па Ленінскай 15.

## Што чытаць.

**„Працавітая дзяўчынка“** — Выданьне БДВ, стар. 16. цана 22 кап.

Кніжачка разьлічана на дзяцей дашкольнага ўзросту. У фотографіях паказан працоўны дзень дзяўчынкі, словы вельмі добра дапаўняюць зьмест малюнкаў.

**„Птушыная сталоўка“**—пераклад з расійскага. Выд. БДВ, стар. 10, цана 45 кап.

Зьмест кніжачкі такі: група дзяцей робіць наглядаьні за прыходам зімы і жыцьцём птушак. Для птушак яны організоўваюць сталоўку і пачынаюць іх карміць.




Малюнкі *А. Тычыны*—выкананы досыць удала і дадзены ў некалькіх фарбах. Шкада, што кніжка задарага.

**„Лявонка на вёсцы“**—М. Баршава.

У апавяданьні расказваецца аб тым, як адзін гарадзкі хлопчык—Лявонка з сваім бацькам езьдзілі ў вёску. Лявонка там знаёміцца з вясковымі дзецьмі. Ходзіць у поле, лес, на рэчку лавіць рыбу, працуе з новымі таварышамі. З ім здараюцца і прыгоды. Кніжачка ілюстравана, разьлічана на дзяцей сярэдняга ўзросту.

**„Макарка“**—С. Сямёнаў. Выд. БДВ, стар. 24, цана 12 кап.

Апавяданьне з фабрычнага жыцьця дзяцей да Кастрычнікавай рэволюцыі. На фабрыцы працуюць некалькі дзяцей. Працаваць ім вельмі цяжка.

Наогул, паказана, як эксплёатаваліся дзеці капіталістымі.

Апавяданьне разьлічана на дзяцей сярэдняга ўзросту.

**„Зьмітрыкова студня“ — М. Палікарпаў.** Выд. БДВ, стар. 16, цана 12 кап.




Апавяданьне для дзяцей сярэдняга ўзросту, з вясковага жыцьця аб тым, як адзін хопчык зрабіў вялікую карысьць для цэлай вёскі. Ён, вынайшоўшы крыніцу, забясьпечыў, такім чынам, усю вёску вадою, і сялянам ня прыходзілася больш хадзіць на далёкую адлегласьць па ваду.



## РАЗЬДЗЕЛ 9.

1. Як сапраўднае прозьвішча Ў. І. Леніна?

2. Што такое компас?

3. Якія ў чалавека маюцца органы пачуцьця?

4. Чаму піонэрам няможна гуляць у футбол?

5. Для чаго служыць хвост у белкі?

6. Калі перадаецца „Беларускі Піонэр“ па радыё?

7. Ці можна рабіць радыё-прыём у час буры?

8. Які яд вылучаюць папіросы?

9. Што такое ППС?

10. Хто такі Нобіле?

11. Чаму няможна купаццца ў поўдзень?

12. З чаго робіцца цэгла?

13. З чаго робіцца сталь?

14. Колькі ў гаду тыдняў?

15. Што такое маштаб?

16. Што такое топографія і для чаго яна ўжываецца?

17. З якога году Комсамол называецца Ленінскім?

18. Для чаго прымацоўваецца мушка на вінтоўцы.

19. Для чаго праводзіцца „Дзень Ураджаю“ і калі?

20. Што такое форпост і якія бываюць форпосты?

## АДКАЗЫ НА РАЗЬДЗЕЛ 8.

1. Ад рамы: шкло ня мае колеру, таму яно ад сонца няможа нагрэцца.
2. Ловіць мышэй.
3. Каля 3/5.
4. 61 пуд.
5. Місьсісіпі з прытока Міссусуры ў Амэрыцы.
6. (5/5) 5.
7. З жалезнай руды.
8. Як організатар рэволюцыйных паўстаньняў.
9. Гэта адна з рэволюцыйных організацый у Украіне.
10. Штучная міжнародная мова.
11. Ад разуменьня сам варыць.
12. Пецярбург, Петраград, Ленінград.
13. Фінляндзкая.
14. З хлапка.
15. Цёплая плынь вады ад экватара.
16. У Віцебску.
17. Уверсе.
18. Палова—Японіі, а другая—СССР.
19. У Азіі.
20. Крапіва.



*На сваё фізкультурнае сьвята—Спартакіяду, сабралася каля 1000 чал. фізкультурнікаў Беларусі. Спартакіяда адбывалася з 15-га па 20-е чэрвеня ў Менску.*




## Задачы.

**№ 1.** Адзін крамнік меў чатыры гіры, якія разам важылі пуд. Гэтымі гірамі ён мог адважваць ад фунта да пуда ўключна.

Па колькі важылі яго гіры?

**№ 2.** У гэтым квадраце, які разьдзелен на 36 квадрацікаў, трэба разлажыць 18 монэт па аднэй у квадраціку так, каб у кожным уздоўжным і паземным радзе было па 3 монэты.



**№ 3.** Гэтыя 3 кружкі трэба паставіць у тры рады так, каб у кожным радзе было па 3 кружкі.



**№ 4.** Бацька, маці і сын разам маюць 100 гадоў. Маці старэй за сына ў 2 разы, а бацька старэйшы за маці на 10 гадоў.

Па колькі гадоў яны маюць?

**№ 5.** Кравец мае скрутак сукна ў 16 мэтраў даўжыні. Кожны дзень ён адразае па 2 мэтры.

Цераз колькі дзен ён адрэжа апошні кусок?

**№ 6.** Пасудзіна, якая мае форму вальца (цыліндра), наліта поўна вадою. Трэба выліць роўна палову тэй вады, што ў пасудзіне, не карыстаючыся для гэтага нічым пабочным.

**№ 7.** У квадраце так разложана 25 запалак, што лік іх з кожнага боку раўняецца 9, акрамя этага на сярэдзіне ляжыць адна запалка.

Трэба, пералажыўшы ня больш двух запалак, зрабіць так, каб пасярэдзіне запалкі ня было, каб лік бакавых раўняўся 9, а агульная колькасьць запалак была-б тая-ж самая.



**№ 8.** Кніжка разам з вокладкаю каштуе 1 р. 50 кап., сама-ж кніжка даражэй вокладкі на 1 руб.

Колькі каштуе вокладка?

*Пяць троек.*

Карыстаючыся толькі пяцьма тройкамі і знакамі дзеяньня, можна напісаць лік сто (100) вось як: 33-х $3+\frac{3}{3}=100$. Але ці можна напісаць, 5-ма тройкамі 0?

Як вы думаеце?



*Паспрабуйце паварочваць перад сабою гэты малюнак і скажыце чаму гэта круцяцца кружочкі?*

# Вясёлы вечар у атрадзе.

*(Пачатак гл. на 2 стар. вокладкі).*



*Адкуль ён усё ведае?*

робяцца такім парадкам: два канцы аднэй трубкі злучаюць з лініяй, замест мікрофону. У гэтую трубку гавораць, ці іграюць. Тады ў другой будзе чутна „перадача". Праўда, гук будзе трохі слабей, чым пры мікрафоне.

Маючы такую „тэлефоную" ўстаноўку, можна правесьці цікавую гульню ў „Радыё-віктарыну". Трэба ўзяць два аднолькавыя нумары якой-небузь часопісі. Адзін нумар даецца каму-небуць з „публікі", а другі знаходзіцца ў „памочніка чараўніка", які сядзіць каля мікрофону. Сам „чараўнік", з тэлефоннымі трубкамі на вушах, надзявае на галаву што-небудзь, ляпей будзёнаўку. Усё гэта трэба зрабіць так, каб публіка ня ўбачыла трубак і не дагадалася, у чым тут справа. Памочнік павінен слухаць, што гаварыцца ў покоі, дзе ідзе гульня. Цяпер, хто-небузь з „публікі" пытае, што надрукавана на якой-небудзь старонцы, напрыклад 21, радку 5 зьверху часопісі. „Памочнік", пачуўшы пра якую старонку і які радок пытаюцца, гаварыць у мікрафон, што там надрукована. „Чараўнік" голасна паўтарае тое, што ён пачуў у трубках. Можна зрабіць, каб „чараўнік" з завязанымі вачыма адгадваў розныя рэчы, прозьвішчы тых таварышоў, якія ўстаюць, што яны робяць і г. д.

Гэта магчыма зрабіць тады, калі памочнік будзе бачыць, што робіцца ў пакоі, дзе гуляюць.

Калі ў атрадзе ёсьць гучнагаварыцель з узмацніцелем, можна зрабіць, каб які-небудзь партрэт, плякат ці малюнак загаварыў ці заіграў. Для гэтага гучнагаварыцель прыладжваюць да задняга боку партрэту ці плякату і маскіруюць так, каб ня відно было, што гэта партрэт ці плякат. Праз мікрафон гавораць і партрэт, будзе гаварыць, як жывы. Можна задаваць портрэту розныя запытаньні, і ён будзе на іх адказваць. Гэта робіцца як і ў ранейшай гульні, толькі ролю „чараўніка" выконвае гучнагаварыцель з портрэтам. Такім парадкам можна правесьці вельмі цікавую віктарыну, трэба толькі, каб той, што знаходзіцца каля мікрафону, хлапец даваў адпаведныя жартаўлівыя адказы. Калі праводзіцца гэта гульня, можна за адно прабраць таго, хто сябе дрэнна вёў у той дзень, пасароміць дрэннага вучня і г. д., наогул кажучы, зрабіць нешта падобнае на вусную газэту.



*Радыё-лялька можа гаварыць.*



1-я друкарня БДВ. Заказ № 2788. У ліку 1250 экз. Ґалоўлітбел № 1666.

ЦАНА 20 кап.

# ЛЯГЕРНЫЯ ПРЫГОДЫ.

*Замалёўкі* Філіпоўскага. *Тэкст* Капейкіна.

1 

 2

3 

 4

5 

 6




1 Стра[illegible] хавем'е:
(Вечка [illegible]атой!)
Вось таму і не дарэмна
Плыт складаюць хлопцы свой.

2 Яны рады, як ніколі,—
Гэта-ж жартачкі сказаць:
Па ўсёй рэчцы, на раздольлі,
Цяпер могуць разьяджаць!

3 Так ад лягеру далёка
Адкаціліся за міг,
Але-ж раптам на глыбокім...
Плыт раскідаўся у іх.

4 Крык паднялі, енк бязьмерны,—
Проста топяцца дый край!
Тут-жа побач піонэры
Рыбу вудзілі якраз.
Рыбаловы з перапуду
Закідаюць свае вуды,
І так выцягнуць хлапцоў
Хочуць, бышцам шчупакоў.

5 Увесь лягер тут прымчаўся,
А ратунку ані званьня.
Яны гэтым сабе часам
Абмяркоўваюць... пытаньне:
Як і спосабам якім
Палавіць ахвяраў ім.

6 Ды на шчасьце з-за узгорку
Селянін прыбег сюды.
Разам з лягерам ён скора
Хлопцаў выратаваў тых.